PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 51 (2119) Год XLI | Беласток 22 снежня 1996 г. | Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Шампанскае пасля ўзнагароды. Злева: Дарафей Фіёнік, Андрэй Сцепанюк і Яўген Вапа.*

# Малая айчына — пуп свету

Што застаўляе чалавека пакінуць абжытую гарадскую кватэру, з усімі выгодамі цывілізацыі канца XX стагоддзя і пераехаць у зруйнаваны двор XVII стагоддзя, каб крок за крокам ствараць у ім прыватную Акадэмію лютні і адраджаць традыцыю рэнесансавага спеву? Або гадамі рамантаваць стары вадзяны млын? Або прапагандаваць драўляныя, крытыя саломаю хаты, як прыстасаванае да сучаснасці, а пры тым згоднае з натурай жытло? Закладаць школу аднаго вучня, тэатр у зачыненым чыгуначным вакзале ў мясцовасці з тысяччу жыхароў, жыць з вырабу аздобаў са скамянелых раслін, якім па дваццаць мільёнаў гадоў, адраджаць забытае рамяство ці мову, якой пагражае знікненне?

Віслава Шымборска ў Стакгольме, калі ёй уручалі Нобелеўскую прэмію, гаварыла пра людзей, да якіх „прыходзіць натхненне".

— Гэта ўсе тыя, хто свядома выбірае сабе працу, — казала нобелеўская лаўрэатка, — выконвае яе з заміласаннем і фантазіяй. Бываюць такія лекары, педагогі, агароднікі і яшчэ сотня іншых прафесій. Іх праца можа быць няспыннай прыгодай, калі толькі ўмеюць бачыць у ёй усё новыя заданні. Нягледзячы на цяжкасці, паражэнні, не меншае іх цікаўнасць. Кожная развязка праблемы родзіць рой новых пытанняў. Натхненне, чым бы яно не было, родзіцца з няспыннага сцвярджэння: *не ведаю*. Такіх людзей няшмат. Большасць жыхароў гэтай зямлі працуюць, каб здабыць сродкі ўтрымання, з прымусу.

8 снежня ў гістарычнай камяніцы *Двор Артуса* на Старамейскім рынку Торуні спаткаліся натхнёныя людзі. Толькі такія прайшлі ў фінал арганізаванага Фондам культуры трэцяга агульнапольскага конкурсу „Малыя айчыны — традыцыя для будучыні" (пісала пра яго ўжо Ада Чачуга: „Студзіводы. Малая айчына"; „Ніва" № 46). У гэты дзень узнагароджваліся лепшыя з ліку дванаццаці фіналістаў, але між прысутнымі не адчувалася атмасферы спаборніцтва. Была аўтэнтычная радасць сустрэчы, узаемныя роспыты пра поспехі і шчырыя віншаванні пераможцаў.

Гэтыя людзі і без конкурсу рабілі б тое самае. Бо яны рэалізуюць свае мары. Станіслаў Яхымак з Расточа прачытаў сваю прыповесць пра чалавека, які марыў паляцець, але ў яго была толькі кузня. Закінуў ён кузню на плечы, выйшаў за вёску і пабег. Бег, бег, аж кузня раскінула крылы і чалавек паляцеў.

Ініцыятыва Фонду культуры дазваляе развінуць крылы. Важныя тут грашовыя ўзнагароды, якія дапамагаюць стаць на ногі, часта бедным як касцельныя мышы, летуценнікам і, тым самым, прыдаюць ім прэстыжу ў лакальным грамадстве. Але не менш важныя сустрэчы з такімі самымі апантанымі (у найлепшым гэтага слова значэнні), дыскусіі з аднадумцамі, узаемапрызнанне — гэта ўсё дапамагае не зняверыцца ў сваіх марах.

Адно з трох вылучэнняў у Торуні — і дваццаць пяць тысяч злотаў — атрымаў праект Дарафея Фіёніка і Яўгена Вапы „Бельск-Падляшскі — сэрца памежжа". Ставіцца ў ім задача захаваць культурнае і моўнае аблічча беларусаўпадляшукоў, жыхароў Бельскае зямлі. Дапамогуць гэтаму, ужо праведзеныя і планаваныя, навуковыя семінары і дыскусіі, гістарычныя выстаўкі, літаратурныя і мастацкія конкурсы, уключэнне ў асветную сістэму мясцовай падляшскай мовы, адраджэнне традыцыйных рамёстваў. Часткаю праекта з'яўляецца таксама сямейны музей Дарафея Фіёніка ў родных Студзіводах, які з цягам часу павінен стаць цэнтрам міжкультурнай адукацыі маладога пакалення бяльшчан — беларусаў і палякаў.

Бурмістр Андрэй Сцепанюк, які звязіў аўтараў праекта (і ніжэйпадпісанага) у Торунь, не скрываў свайго задавальнення: „Дзякуючы вам, наш горад сёння быў заўважаны ўсёй Польшчай".

Вядомы польскі пісьменнік Веслаў Мыслівіскі напісаў у прысвечаным гэтаму конкурсу дадатку штомесячніка „Nowa Wieś": „Вялікая айчына сёння пачынае вылівацца па-за свае межы, як быццам губляла сваю тоеснасць. Паскорыць гэты працэс, пэўна, ідэя еўрапейскай уніфікацыі. У свеце без межаў, праўдападобна, застануцца нам толькі малыя айчыны". Сярод іх наша — найважнейшая, найдаражэйшая, цэнтр сусвету...

**Мікола ВАЎРАНЮК**

*Фота аўтара*

Яўген МІРАНОВІЧ

## З'езд грамадоўцаў у Старым Беразове

**Неяк незаўважальна мінула шасцідзесятая гадавіна пагрому грамадоўцаў у Старым Беразове. У 1991 годзе памяць ахвяр санацыйных рэпрэсій ушанавалі дзеячы Беларускага аб'яднання студэнтаў і арганізатары Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Маладыя людзі зрабілі гэта не таму, што атаясамліваліся з праграмай Грамады, але дзеля салідарнасці з беларусамі, якія змагаліся за захаванне свае нацыянальнай годнасці.**

Беларускую сялянска-рабочую грамаду стварылі вядомыя нацыянальныя дзеячы — Браніслаў Тарашкевіч, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётр Мятла, Павел Валошын, Юры Сабалеўскі. Паверылі яны ў тое, што ў камунізме можна рэалізаваць нацыянальную ідэю, інтэграваць вакол яе народ, развіваць нацыянальную культуру. Пры канцы 1926 года Грамада была найбольшай партыяй у Польшчы, налічвала звыш ста тысяч членаў, а яе рады безупынна раслі. Гэты магутны грамадскі рух поўнасцю кантраляваўся Камінтэрнам і так у сапраўднасці невядома, якія былі яго канчатковыя мэты.

Але не атракцыйнасць камуністычнай ідэі выклікала папулярнасць Грамады сярод беларускага сялянства, а грамадская, эканамічная і палітычная сітуацыя на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Галеча беларускай вёскі, прыніжаючая годнасць каланіяльная ўлада стварылі такую атмасферу, што кожная арганізацыя, якая адмоўна ставілася да пануючай сітуацыі і рашуча прапанавала радыкальныя змены, магла разлічваць на сімпатыю грамадства.

Грамада была партыяй легальнай і ў сваёй дзейнасці карысталася выключна дазволенымі правам метадамі, а гэта было найменш выгаднае ўладам II Рэчы Паспалітай. Не было фармальных падстаў, каб законнымі метадамі стрымаць маланкавае развіццё грамадоўскага руху. А тэмп яго росту меў прыкметы агульнанацыянальнага бунту. Ураднікі і палітыкі з „крэсаў", а асабліва міністр юстыцыі Аляксандр Мэйштовіч, трывожна заклікалі ўрад не зважаць на законы і любымі метадамі разбурыць грамадоўскія структуры. Восенню 1926 года рэдка здаралася, каб

*(працяг на стар. 4)*

*Чытачам „Нівы", якія святкуюць Каляды па новаму стылю, жадаем прыемнага святочнага адпачынку.*

*Рэдакцыя*

# Мы прачыталі

*Mówienie w dzisiejszej Polsce o komunistach to więcej niż paradoks. Już dziesięć lat temu trudno było znaleźć w waszym kraju jakiegokolwiek komunistę, a po rozpadzie systemu, kiedy dawna nomenklatura opanowała najbardziej stabilne i dochodowe instytucje życia państwowego, np. banki, właśnie komuniści stworzyli grupę najbardziej konserwatywną w społeczeństwie. Tak więc faktycznie — choć wbrew nazwie — to oni tworzą polską prawicę.*

*Zawsze byłem zdania, że rozkładający się system komunistyczny był ustrojem absolutnie idealnym dla Kościoła i o lepszych warunkach działania nie mógł on nawet marzyć,* — сказаў брытанскі гісторык Норман Дэвіс.

*Wprost, nr 47*

* * *

*W Polsce został pobity światowy rekord paranoi. Rządząca partia PSL głosuje przeciwko podatkom ustalonym przez rząd. Czegoś podobnego nie było jeszcze w świecie. Za to opozycja ustala podatki zgodnie z życzeniem rządu.*

*Gazeta Wyborcza, nr 272*

* * *

*Wydatki na uposażenie i diety posłów i senatorów w przyszłym roku poważnie wzrosną. W sumie poseł będzie zarabiał ponad 6 tys. zł. (ponad 60 milionów), dziś dostaje 4 tys. zł.*

*Gazeta Wyborcza, nr 276*

І гэта адна з радасных навін канца 1996 г. Сярэдняя зарплата ў краіне, як відаць, будзе ўзрастаць надалей.

* * *

*Spektakl hipokryzji urządzili białostoccy radni podczas głosowania nad podwyżkami swoich diet. Prawie wszyscy chcieli podwyżek, ale otwarcie wypowiedziało się za nimi tylko dziesięciu radnych. Pozostałych 28 wstrzymało się od głosu.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 276*

А што, райцы маюць быць горшыя, чым паслы і сенатары?

* * *

*Pierwsze podliczenia głosów w niektórych punktach wyborczych na Białorusi po przeprowadzonym 24 listopada referendum wskazywały, że wzięło w nim udział ponad 100 proc. wyborców.*

*Wprost, nr 48*

І гэта сапраўды вялікае дасягненне лукашэнкаўскай дэмакратыі.

* * *

*Калпашава ў Томскай вобласці гэта сібірскія Курапаты. Ляжаць там косці дзесяткаў тысяч беларускіх сялян, сасланых туды ў час калектывізацыі. Масавыя расстрэлы ва ўнутранай турме НКУС пачаліся ў другой палове трыццатых гадоў, калі сталі фабрыкавацца дзікія, фантастычныя справы. Тут у будынку турмы ў адной з камер выконваліся прыгаворы тройкі НКУС і Пракурора СССР. Трупы расстраляных паслойна перасыпалі гашанай вапнай у ямах падрыхтаваных на двары. Ямы з трупамі раўняліся зямлёй і нічым не пазначаліся. У адзін дзень у 1937 годзе знішчалася звыш 200 чалавек. Большасць ні ў чым невінаватых грамадзян было расстраляна ў Калпашаве ў перыяд з 8 мая 1937 года па 4 мая 1943 года. У 1960 г. вада ракі Об падмыла тэрыторыю канцлагера. Улады СССР пачалі спешна хімічна знішчаць астанкі трупаў, якія несла рака. Спецыяльнае падраздзяленне КДБ СССР аж да 1985 г. займалася хімічным нішчэннем магіл мільёнаў ахвяр камуністычнага шаленства.*

*Голас Радзімы, н-р 48*

* * *

*З точки зрения прав человека в Беларуси царит полнейшее средневековье,* — сказаў рускі палітолаг Сяргей Кавалёў.

*Свабода, н-р 89*

* * *

*Дзяржаўны пераварот? Ці людзі не дазволяць?* — пытае

*Наша слова, н-р 47*

Людзі на ўсё дазволяць. Дарэчы, пры чым тут людзі? Не такія фокусы тварылі ў Беларусі папярэднікі Лукашэнкі і сёння іх помнікі стаяць у цэнтры гарадоў краіны. Ахвяры найчасцей маюць схільнасць аказваць удзячнасць тым, што іх праследуюць.

* * *

*Polska komunistyczna była niedemokratyczna i niesuwerenna, ale Polacy bardzo często wolą ją od dzisiejszej.*

*Gazeta Wyborcza, nr 272*

* * *

*Polacy coraz częściej nie biorą ślubów nie tylko z powodu niechęci do rezygnowania z przywilejów wolnego stanu, ale także dlatego, że nie muszą wiązać się za wszelką cenę.*

*Wprost, nr 48*

Раней толькі ксяндзы жылі „na kocią łapę”, а цяпер! Што тут нарабілася!

* * *

*Przeciwnicy golizny w Białymstoku będą sprawdzać wypożyczalnie kaset wideo w poszukiwaniu materiałów porno.*

*Kurier Poranny, nr 282*

Беластоцкая інквізіцыя хоча быць не менш слаўнай, чым іспанская.

* * *

*Беларусь выходзіць з крызісу,* — інфармуе

*Народная газета, н-р 299*

І гэта самая прыемная інфармацыя. Добра будзе наведаць дэмакратычную Беларусь, паслухаць людзей на роднай мове, пабачыць шчаслівую і свабодную краіну без помнікаў Леніну і партрэтаў Лукашэнкі. Найважнейшае — як піша прэзідэнцкая газета — што ўсё добра скончылася.

# З мінулага тыдня

**У Лісабоне** падчас адкрыцця саміту Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) старшыня гэтай арганізацыі, міністр замежных спраў Швейцарыі **Флавіё Коцці** выказаў глыбокую занепакоенасць апошнімі падзеямі ў Беларусі, асабліва рэферэндумам, прыняццём новай канстытуцыі і стварэннем новага парламента. Заклікаў ён прэзідэнта Беларусі **Аляксандра Лукашэнку** рашаць праблемы сваёй краіны шляхам палітычнага дыялогу з апазіцыяй. Таксама прэм'ер-міністр Ірландыі **Джон Брутан** выступіў з заклікам да прэзідэнта Беларусі шанаваць прынцыпы дэмакратыі. Лукашэнка ў сваю чаргу рашуча выказаўся супраць планаў пашырэння НАТО на ўсход і перасцярог, што калі б да такога дайшло, наступіў бы новы „раскол” на нашым кантыненце.

**Польшча** з узрастаючай трывожнасцю наглядае за развіццём падзей у Беларусі, — сказаў прэзідэнт РП **Аляксандр Квасьнеўскі**, выступаючы на саміце АБСЕ ў Лісабоне. Падкрэсліў ён, што ў Беларусі, так як у кожнай краіне-ўдзельніцы АБСЕ, павінны быць шанаваны правы чалавека і асноўнае права на свабоду, паколькі без супольных каштоўнасцей не можа быць аб'яднанай Еўропы.

**АБСЕ** прызвала прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку неадкладна вярнуць дэмакратыю і пашану канстытуцыі. У адмысловай заяве, аб'яўленай падчас закрыцця саміту АБСЕ, сцвярджаецца, што Аляксандр Лукашэнка павінен гарантаваць поўную свабоду дзеяння сродкам масавай інфармацыі, вярнуць дэмакратычныя працэдуры і пачаць перагаворы з апазіцыяй. Падкрэслена таксама, што лістападаўскі рэферэндум праводзіўся з парушэннем прынцыпаў канстытуцыі і нельга яго прызнаць законным. Аднак АБСЕ не рашылася прыпыніць членскія правы Беларусі.

Маладзёжныя секцыі абодвух фракцый **Канфедэрацыі незалежнай Польшчы** падпісалі пагадненне аб палітычным і культурным супрацоўніцтве з Фракцыяй маладых **Беларускага народнага фронту**. Раней дамову з беларусамі падпісаў Форум маладых **Паразуменне Цэнтр**.

**Дзесяць бежанцаў з Беларусі** хадайнічаюць за атрыманне палітычнага прыстанішча ў Польшчы. На працягу бліжэйшых тыдняў, на іх думку, можна спадзявацца ўсплёску новай хвалі бежанцаў з гэтай краіны, якіх лік можа быць у некалькі дзесяткаў разоў большы. Прадугледжваемы рост колькасці імігрантаў з Беларусі будзе вынікам непазбежнага пашырэння рэпрэсій у адносінах да прадстаўнікоў палітычнай апазіцыі ў Беларусі з боку апарату прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, — заявілі прадстаўнікі Фракцыі маладых БНФ.

**Суполка „Руно” з Гайнаўкі**, як адзіная фірма з трох ваяводстваў паўночна-ўсходняй Польшчы, вылучана на атрыманне прэміі ў арганізаваным Міністэрствам фінансаў конкурсе „Залатога фіску”. У конкурсе могуць удзельнічаць фірмы, якія тэрмінова плацяць падаткі.

**На праваслаўным могільніку ў Сувалках** невядомыя злачынцы апаганілі шэсць магіл. Хуліганы павырывалі крыжы, паракулілі намагільныя помнікі, абарвалі пліты і ланцугі, папсавалі агароджу. Падобныя пашкоджанні былі ўчынены і на суседніх стараверскіх могілках.

**Супрацоўніцтва** польскай паліцыі і беларускай міліцыі давяло да затрымання 22-гадовага жыхара Гродна, які падазраецца ў забойстве 29-гадовага грамадзяніна Беларусі каля гранічнага перахода ў Агародніках на польска-літоўскай мяжы.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- Каляндар на 1997 год!
- Ваенныя ўспаміны Парфірыя Апольскага.
- Расказ Вольгі Нікіцюк з Мокрага пра бежанства.

# Весткі з Беларусі

**Антыпрэзідэнцкая дэманстрацыя**

8 снежня ў цэнтры Менска адбылася шматтысячная дэманстрацыя супраць дыктатуры прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Шэсце па вуліцах сталіцы і мітынг на плошчы Незалежнасці, дзе знаходзяцца сядзібы ўрада і былога Вярхоўнага Савета, праводзіліся без згоды ўлад горада. Міліцыя арыштавала 11 чалавек, у тым ліку чацвёра мужчын і адну жанчыну, якія перад Пасольствам Расейскай Федэрацыі ўзнімалі воклічы „Рукі прэч ад Беларусі!”. Сярод арыштаваных апынуўся таксама Мікола Статкевіч — старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Быў ён звольнены на другія суткі і прыцягнены да адміністрацыйнай адказнасці. Лідэр апазіцыйнай Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч заклікаў народ да грамадзянскага супраціўлення ўладзе і абвінаваціў кіраўніцтва Расеі ва ўмацоўванні рэжыму Лукашэнкі.

**Пратэст суддзяў**

Старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня напісаў заяву аб адстаўцы. Такія ж заявы падалі намеснік старшыні КС Валерый Фадзееў, канстытуцыйныя суддзі Міхаіл Пастухоў і Аляксандр Вашкевіч. Пры гэтым Фадзееў адрасаваў сваю заяву прэзідэнту, а Пастухоў і Вашкевіч — Вярхоўнаму Савету, якога не прызнае Лукашэнка. Каменціруючы дзеянні калег, Ціхіня выказаў меркаванне, што гэтыя заявы аб адстаўцы не апошнія. І сапраўды, праз некалькі дзён падаліся ў адстаўку яшчэ тры суддзі. Цяпер у саставе Канстытуцыйнага суда засталіся чатыры суддзі, калі мінімальны склад патрабуе мець сем суддзяў. Аб'яўляючы аб адстаўцы суддзі пратэставалі супраць увядзення лукашэнкаўскай канстытуцыі.

**Шчодрасць прэзідэнта**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка даручыў ураду ўстанавіць з 1 студзеня 1997 г. мінімальную заработную плату ў памеры 130 тысяч рублёў. Адначасова будуць павялічаны і мінімальныя памеры пенсіі. Прэзідэнт асабліва падкрэсліў, што рэзкага бескантрольнага павелічэння цэн не будзе. Аднак не выключае ён, што ў найбліжэйшы час падмуцца цэны на гарэлку, тытунёвыя вырабы і некаторыя іншыя прадукты, якія не з'яўляюцца таварамі першай неабходнасці, а таксама на высакаякасны бензін.

**Клапатлівыя дэпутаты**

З просьбай вырашыць лёс чатырох дэпутатаў Вярхоўнага Савета, абраных у яго 24 лістапада г.г., Цэнтрвыбаркам звярнуўся да прэзідэнта Лукашэнкі. Генадзь Грушавы, Уладзімір Тарасаў, Аляксандр Працэвіч і Юры Троцкі былі абраны ў ВС XIII склікання, які пасля рэферэндуму быў ліквідаваны. Увайсці ў новастворaную Палату Прадстаўнікоў гэтыя людзі таксама не могуць, паколькі нават не ўсім паслушным прэзідэнту дэпутатам хапіла ў ім крэслаў.

**Інтэграцыйныя намаганні**

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка прыняў старшыню Інтэграцыйнага камітэта Расеі, Беларусі, Казахстана і Кіргізіі Нігмаджана Ісінгарына. У час гутаркі ўзнімаліся пытанні інтэграцыі як гэтых чатырох дзяржаў, так і дванаццаці краін СНД. Госць пазнаёміў прэзідэнта з напрацоўкамі для правядзення чарговага пасяджэння міждзяржаўнага савета ў студзені будучага года.

**Інтэрнет залежны?**

У Інтэрнеце яшчэ да нядаўна можна было знайсці інфармацыю пра антыпрэзідэнцкую апазіцыю ў Беларусі. Аднак ноччу з 22 на 23 лістапада таямнічы гакер паралізаваў гэтую інфармацыйную дзейнасць. Нью-йоркскі Камітэт аховы журналістаў 26 лістапада паведаміў, што пад інтэрнэтавым адрасам беларускай апазіцыі стаў паяўляцца толькі надпіс: „Нам вельмі непрыемна! Ворагі дэмакратыі знішчылі наш сервер”. Атака на старонку з інфармацыяй аб беларускай апазіцыі ў інтэрнэтавай частцы World Wide Web пачалася ў момант, калі прэм'ер-міністр Расеі стаў весці перагаворы з прэзідэнтам і дэпутатамі Вярхоўнага Савета, якія намагаліся адхіліць яго ад пасады. На згаданай старонцы WWW можна было перад гэтым знайсці незалежную інфармацыю з Беларусі, уключна са здымкамі дэманстрантаў, якіх збівала міліцыя.

# У наймалодшай і сучаснай

**Новая Лука — наймалодшая вёска Беласточчыны. Насельніцтва тут нетыповае. У мясціне сем гаспадароў, перасяленцаў са старой Лукі, і за шэсцьдзесят дачнікаў.**

**У чатырох хатах маладыя сем'і з дзяцьмі.**

**— А пасля Новага года народзіцца зноў двое дзетак, — кажуць пастаянныя жыхары Новай Лукі.**

Мінуўшы адміраючыя і сфрустраваныя Бандары (пра гэта інфармуе падарожніка маладзёжны, выкананы аранжавым шпрэем, надпіс на аўтобусным ларку: „Sraj Polaku, sraj — to jest nasz kraj"), будзеце глядзець толькі на Семяноўскае вадасховішча. Пазней ураджанне пакіне мясціна з указальнікам Новая Лука. Шыкарныя дамы сярод сосен, новыя, вялікія гаспадарскія сядзібы.

У пачатку мясціны праваслаўны, вясковы, стары крыж. Навокал жалезная агароджа. Крыжык прыбраны пластмасавым чырвона-зялёным вяночкам. На фоне шыкарных дамоў выглядае ён непаўторна. Найбольш цікавае спалучэнне сучаснасці і традыцыі, якое давялося пабачыць мне на Беласточчыне!

— Перанеслі яго са старой Лукі, — кажа Вячаслаў Каральчук. — Людзі хацелі паставіць тут ужо новы крыж, але *сказаў* бацюшка Янкоўскі з Ляўкова: „Нельга пакідаць крыжа, якога паставілі вашы дзяды і прадзеды".

**Вёска больш беларуская,**

— кажуць мясцовыя. Гаспадары тутэйшыя. Ніхто са старэйшых па-польску не гаворыць. Маім субяседнікам за трыццаць.

— Між сабою мы па-простаму размаўляем. Да дзяцей ужо па-польску. Але дзеці падрастуць і самі беларускай навучацца... Хаця, праўда, у Шымках не вучаць яе ў школе.

У сям'і Каральчукоў часам чытаюць і „Ніву".

— Як натхненне прыйдзе.

— І сярод дачнікаў найбольш такіх, якія з гэтай тэрыторыі родам. Пераважна беластачане. Там і песню роднуую пачуецца, — апавядаюць Каральчукі пра суседзяў з-за другога боку вуліцы.

Дачнікі якраз і пасяліліся на лясным баку, насупраць гаспадароў-земляробаў.

— Нашы дачнікі людзі з *культурай*, — кажуць мае субяседнікі — паліцэйскія, дактары. Адно сужонства вельмі ж беларускасцю захапляецца. На вяселле то самі ўпрасіліся „żeby zobaczyć ten piękny prawosławny ślub".

— А колькі я працы дзякуючы ім меў, — успамінае Вячаслаў, па прафесіі столяр і земляроб. — Усе яны будаваліся і мяне наймалі.

— І прадукты ад нас купляюць, — дадае Марыся.

Прыемна паслухаць, як са шчырай сімпатыяй гавораць пра дачнікаў.

— Мы з многімі пасябравалі, сустракаемся, — кажуць Каральчукі.

**У Воўчую Яму**

Марыся і Вячаслаў Каральчукі перабраліся ў Новую Луку ў 1986 годзе.

— Тады толькі дзве-тры хаты тут стаялі. Далей быў лес і лес, — успамінаюць яны.

Новую Луку заснавалі ў 1980-ым годзе. Сярод 120 гаспадароў старой Лукі толькі нямногія не схацелі *ісці ў блёкі*. Разам з бацькамі Вячаслава вёску закладалі: Самоцік Кастусь, Харкевіч Уладзімір, Харкевіч Валянціна, Смольскі Яўген, Харкевіч Хведар, Стоцкі Міхал, Байчук Ян, Стоцкі Мікалай. Вячаслаў астаўся на гаспадарцы, бо бацькі ўгаварылі.

— Цяжка тады было рашыцца. Уся моладзь у горад уцякала, — успамінае ён.

Тыя, што ў блёкі пайшлі, смяяліся з іх. Амаль усе кватэры мелі і самаходы пакуплялі. А мы? Пачыналі, можна сказаць, з нічога. Не было тут у 80-ым годзе ні электрычнасці, ні вады. Замест дарогі — сцяжынка палявая.

Каральчукі найперш выкапалі калодзеж. Пазней будаваліся. Цяжка было. Бо будаваліся не так, як людзі будуюцца. Усё нараз: хата, абора, стадола. І час такі складаны папаў. Усё выхадзіць трэба было.

— Па сённяшні дзень хата не скончана, — кажа Вячаслаў. — А тут адзін з Варшавы дачнік за год пабудаваўся.

Каральчукі прыгадваюць, як у старой Луцэ пра іх гаварылі:

— У Воўчую Яму пойдзеце?

Справа ў тым, што ўрочышча, дзе паставілі Новую Луку, у народзе Воўчай Ямай называюць.

— А цяпер, — кажуць мае субяседнікі, — некаторыя нам зайздросцяць. Найгорш тым, што ў Бандары ў блёкі пайшлі. Быў час, што людзі як мухі ад нуды там мерлі.

— Што ж, — кажа Вячаслаў, — цяжка вясковаму чалавеку ў клетцы выседзець.

**Няма нідзе дабра**

цяпер, — кажуць Каральчукі. Гаспадарка ў іх 18-гектарная, усе машыны, новая забудова, у хаце цэнтральнае ацяпленне, газ, усе прылады хатняга ўжытку. Цяжка аднак пражыць з самой гаспадаркі. Вячаслаў мае яшчэ дрэваапрацоўчую майстэрню, Марыся працавала ў гміне.

— А цяпер, — паказвае тры дачушкі, — у хаце. Наймалодшай, непаседлівай Міленцы два годзікі. У Новай Луцэ нарадзілася шасцёра дзяцей. Пасля Новага года будзе яшчэ пара.

— Нашы гаспадыні, — кажа Марыся — дзве з вышэйшай адукацыяй. Па нацыянальнасці яны таксама не *тутэйшыя*. Адна з-за Масквы, другая са Слупска. На чатыры маладыя сужонствы толькі дзве мясцовыя — яна, Марыся, з недалёкай Слабодкі і яшчэ адна дзяўчына з Ляўкова. — Цяпер на вёсцы няма цяжкай працы, — кажа Марыся, — каровы і тыя даільным апаратам падоім. Толькі жыць з *ральніцтва* цяжка. Калісь на бульбе людзі добра зараблялі. Каральчукі па трыццаць пяць тон прадавалі. Бо тут зямля пясчаная, пятага-шостага класаў. А цяпер на адным малацэ вёска трымаецца. Не дзіва, што кожны дадатковага занятку шукае. У Новай Луцэ так і прынялося цяпер. Амаль усе маюць падвойныя прафесіі.

— Жыць цяпер лягчэй, як у старой Луцэ, — уключаецца ў размову маці Вячаслава.

— О... на „Ніву" калісь усе падпісваліся, — не скрывае сімпатыі да нашай газеты цётка.

У старой Луцэ цесна было. Гаспадаркі на дзесяць загонаў падзелены былі. А ў новай вёсцы прасторна, выгадна. Толькі на старым месцы людзям весялей жылося.

Маладыя Каральчукі не наракаюць на нуду. Зжыліся з месцам і новымі людзьмі. Маладым, вядома, лягчэй перамагчы гэты бар'ер.

— Адно што ў школу далёка, — кажа Вячаслаў. — забяруць дзяцей у шэсць раніцы і прывязуць а трэцяй або чацвёртай пасля абеду. Дзеткам і гуляць ужо няма ахвоты.

**У канцы**

вёскі стаіць новы праваслаўны крыж. Пасвяцілі яго нядаўна, 20 кастрычніка г.г. Тут стане царкоўка. — Войт даў тры пляцы, керамічнае прадпрыемства з Ляўкова — цэглу, людзі дапамагаць будуць.

— Самі не стаўлялі б, — кажуць Каральчукі. — Людзі самаходы маюць, то і ў Ляўкова няцяжка заехаць. Але *брацтва* схацела. Кажуць нам: „Дапамажыце царкоўку паставіць, а мы створым тут дом апекі для састарэлых".

Трэба ж карыстацца такім месцам. Навошта ж гэтае вадасховішча без людзей?

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Сям'я Каральчукоў з Новай Лукі.*

# Пакрыўджаны доляй?

Будучы ў Мокрым, надумаў я наведаць знаёмага калегу. Гаспадара застаў я на панадворку, каля прыгожай мураванкі. Рыхтаваў ён пашу для жывёлы. Прывітаўшыся, папрасіў мяне зайсці ў хату.

Калі прыселіся мы за сталом акуратна абсталяванай кухні і пачалі гаворку, у голасе прыяцеля пачуўся нейкі жаль. Быццам нараканне на сваю долю плыло з яго душы.

— Ведаеш, Валодзя, — пачаў мой калега, — трыццаць два гады прапрацаваў на дзяржаўнай рабоце, а зараз ні залатоўкі адгэтага не маю. Апошняя пасада ў бельскім ГСе аказалася нестабільнай. Мяне звольнілі. Зараз займаюся гаспадаркай. Ад світання да змроку работы хапае, бо гаспадарка не так ужо малая. Больш дванаццаці гектараў усяе плошчы займае. Жонка мне памагае. Аднак здароўе пачало псавацца. У час выпадку пазваночнік лопнуў у двух месцах. Каля двух месяцаў у бальніцы праляжаў. А калі падаўся я на лекарскую камісію, каб нейкую кампенсацыю атрымаць за выпадак, лекары нават аднаго працэнта затраты здароўя не прызналі. Падаваў я заяву ў суд. У час разгляду маёй справы аказалася, што ў шпіталі лячылі мяне ад астмы, а не ад траўмы пазваночніка. Не памаглі мае тлумачэнні, што я ніколі на астму не хварэў, і зараз не адчуваю ніякіх сімптомаў гэтай хваробы. Ніхто мне не паверыў.

— У такім выпадку вам патрэба паддацца агляду спецыялістаў, — параілі ў судзе. — Толькі акуратны лекарскі дыягназ зможа вырашыць гэтую праблему...

Янка Нікіцюк, бо аб ім тут гаворка, спыніў свой расказ. Сумна паглядзеў у акно.

— Ты не прабаваў у другі раз падаць заяву ў камісію, — паспрабаваў я прадоўжыць нашу размову.

— Не рашыўся, — адказвае мой субяседнік. — Паперы мне лекары папраўлялі... Ды хто з імі выйграе?..

Янку Нікіцюку 55 гадоў. Каб атрымаць сельскагаспадарчую пенсію трэба чакаць дзесяць гадоў.

— Дзе ж мне вытрымаць столькі часу на гаспадарцы? — кажа калега. — Ужо гаворка ідзе, што пасля Новага года складчына KRUS будзе намнога больш павышаная. За сваю гаспадарку вымушаны буду заплаціць каля дваццаці васьмі мільёнаў злотых у год за сябе, і столькі ж за жонку. Пальцы, колькі я вымушаны прадаць бычкоў ці іншых сельскагаспадарчых прадуктаў? А і жыць трэба. Дачнэ ў Беласток заўсёды падкінем. Вышэйшую адукацыю заканчвае...

Гледзячы на свайго калегу, на яго прыкулены сілуэт і засмучаны твар, сумна і мне робіцца на сэрцы. „Чаму ж гэтага чалавека так доля пакрыўдзіла?" — пытаю сябе ў думках падчас развітання.

**Уладзімір Сідарук**

# Практыкі манапаліста

У Бельску, як вядома, ідзе інтэнсіўная тэлефанізацыя горада.

Адзін жыхар новага вялікага мікрараёна пры вуліцы Белавежскай цешыўся сваім тэлефонам усяго... адзін тыдзень. Якраз паспеў абзваніць усіх знаёмых і паведаміць ім свой нумар, калі апарат заглух. Мала чаго, аднак, бывае з новай, неправеранай тэхнікай? Чалавек пайшоў і каму трэба заявіў пра аварыю. Другі раз — праз некалькі дзён — зрабіў гэтае самае, але ўжо крыху ўсхваляваны. Калі і гэта не памагло, зрабіў буру ў тэлекамунікацыі, пагражаючы скаргай у самой сенатар Барбары Лэнкавы (яна адначасна дырэктар суполкі Telekomunikacja Polska S.A. у Беластоку). У выніку гэтага сапраўды, яшчэ ў той сам дзень з'явіліся сувязісты і хутка справіліся з рамонтам. Тэлефон працаваў пасля іх ад'езду... тры дні. Зноў пачаліся экскурсіі таго жыхара на пошту.

У Бельску ў пачатку года прымалі заявы на ўстаноўку тэлефона дзве фірмы. Але на рынку застаўся манапаліст Telekomunikacja Polska S.A. Дык і магчымая такая трактоўка кліента. Канкурэнцыі няма, а манапалісту што зробіш? **(ак)**

**Жонка паскардзілася на мужа...**

# Трагедыя

— Быў якраз снежань 1942 года — студзень сорак трэцяга. Менавіта тады немцы расстралялі майго бацьку, Яўсея Харытанюка... — Мікалай Харытанюк, жыхар вёскі Паўлы, цяжка ўздыхнуў і ў яго вачах паказаліся слёзы. — Здарылася трагедыя — адна на мільён.

Немцы? Я іх памятаю, як у трыццаць дзевятым напалі на Польшчу. Ехалі на роварах і на конях. Выглядалі прыемна, былі гжэчныя: што на вёсцы бралі — за ўсё плацілі грашыма, за хлеб, малако, яйкі.

Мне ў тым памятным верасні было адзінаццаць гадоў. У трыццаць восьмым я пайшоў у школу ў Паўлах. Раней не мог, бо мусіў пасвіць кароў. Затое за першы год скончыў два класы пачатковай школы.

Першыя немцы ўвайшлі да нас у верасні, а рускія прыйшлі дзесьці ў кастрычніку, і нейкі час не было ўлады. Трэба прызнаць, што ў трыццаць дзевятым, нават калі немцы адыходзілі перад уваходам рускіх, яны былі такія самыя, як на пачатку. Школы людзям не рабілі.

Мо месяц часу была ў нас цішыня. Па радыё (адзін чалавек у нас меў — Ануфрыюк Міхал) людзі даведаліся, што маюць увайсці рускія. Нашы людзі іх чакалі. І брамы, а як жа, на дарогах парабілі: і на дарозе з Давідавіч, і з Цялушак. Упрыгожылі іх ялінай, геаргінямі.

Калі рускія ўвайшлі сюды ў трыццаць дзевятым годзе, то так, як і ў іншых раёнах, арыштавалі ўсіх багацейшых людзей. Што з імі было далей, ніхто не ведаў. Казалі, што павезлі ў Сібір. Адзін тут меў краму, дык забралі яго, і жонку, і брата, а дзяцей яны не мелі. Слух па іх загінуў. А былі гэта добрыя людзі. Маленькая крамка, ніхто нікога не эксплуатаваў, самі працавалі.

Ад нас узялі тады Ілью Грыбоўскага, з якім жыла мая бабуля. А прыехалі яны ў Паўлы з Грыбоўшчыны, бо думалі, што тут будзе спакайней. Прапаў след, як і па Нічыпару з крамы.

Які быў настрой у людзей? Большасць радавалася. Моладзь пачала вучыцца па-руску і па-беларуску. Пабудавалі школу, перавезлі будынак з-пад Жэдні. І я пайшоў ізноў у другі клас. Але зрабілі калгас — і частка людзей не была гэтым захоплена. У калгас яны не пайшлі.

Калі ў 1941 годзе ізноў напалі на нас немцы, былі ўжо гэта цалкам іншыя людзі, іншыя салдаты. Ад сорак першага да сорак чацвёртага людзі іх добра спазналі. Шмат каго пабралі на прымусовую працу ў Германію. Забіралі ўсё: мяса, бульбу, збожжа, яйкі, малако. Былі абавязковыя кантынгенты, за якія, вядома, грошай не плацілі.

Якія былі салдаты? Салдаты бралі ў нас усё, як сваё! Вепрука без дазволу нельга было забіць. А дазволяць — забяруць. Нават паціху страх было забіць кабана, бо суседа баяліся, што немцу данясе...

У тую страшную для нас зіму 42—43 гг. немцы арыштавалі нашага бацьку і яшчэ аднаго чалавека з вёскі. Не памятаю яго прозвішча, але мянушка была — Рыгароўскі. Імя — Міхал. Арыштавалі іх і расстралялі.

І хто б калі мог падумаць, што малы інцыдэнт станецца прычынай такой трагедыі... Маці наша сустрэла іх у кампаніі, дзе яны выпівалі. Вядома, як гэта баба, пачала скандаліць. Дома шасцёра дзяцей, работы поўныя рукі, а ён сабе сядзіць і папівае, весяліцца!

Бацька быў ужо выпіўшы і не сцярпеў жончыных папрокаў пры людзях. Не вытрымаўшы, жонку адлупцаваў. Што было рабіць беднай бабе?! Дзе шукаць ратунку? — У малых дзяцей, у суседзяў?.. Крыўда душыла яе. Вырашыла, што мо „ўлада" мужыка крыху напужае і прывядзе яго ў парадак. Больш зоймецца дзецьмі і жонку шанаваць будзе. Пайшла і паскардзілася ў нямецкую жандармерыю, што знаходзілася ў Рыбалах. Паведаміла ім аб інцыдэнце ў добрай веры, не прадчуваючы пагрозы.



*Мікалай Харытанюк расказвае пра сваю сямейную трагедыю.*

Немцы зачынілі бацьку і Рыгароўскага. Пачалося следства. Данеслі ім, што бацька быў членам КПЗБ, што меў сувязь з партызанамі. У жандармерыю цягалі шмат аднавяскоўцаў і рознае яны там гаварылі.

Бедная наша маці, яна думала, што немцы яе пашкадуюць, дапамогуць ёй, але яны на нашага бацьку мелі ўжо вока раней і толькі чакалі нагоды, каб з ім расправіцца. Аднак пра гэта мы даведаліся значна пазней.

З Рыбалаў арыштаваных павялі да Ляшкоў і там, у ляшкоўскім лесе, расстралялі і закапалі. Ніхто не ведаў, куды іх павялі. Забралі — і ўсё. Ведаў пра гэта толькі ляшкоўскі солтыс, але, відаць, яго абавязалі трымаць гэты факт у таямніцы. Толькі ў 1944 годзе, пасля вызвалення, ён паказаў нам, дзе ляжаць забітыя. Мы паехалі і перанеслі астанкі на паўлаўскія могілкі.

Як жа адпакутавала наша маці за свой неразважны ўчынак! У сорак дзевятым ці пяцідзесятым годзе „убэ" забрала маці ў Бельск. Год праседзела яна там у арышце, бо ізноў знайшліся „добразычлівыя", якія данеслі, што немцы забілі людзей з-за яе.

Сядзела цэлы год, бо столькі ішло следства. Як рэагавала вёска? Адны казалі: о, добра, што такую ўзялі! Прадала дваіх. Другія спачувалі ёй і нам, адзінокім дзецям. Што яны там трымаюць нявінную кабету? — абураліся. І так, думаю, працэнтаў 80-90 жыхароў нашай вёскі шкадавала яе.

Быў суд, і тады з архіваў выцягнулі даносы ад людзей у нямецкую жандармерыю.

А пасля маці атрымала паведамленне з пракуратуры, што яна не вінаватая. І толькі тады, калі маці вярнулася дадому, я даведаўся пра тыя даносы на членаў КПЗБ. Мой бацька належаў да больш актыўных.

Вось і так бывае... — на вочы Мікалая Харытанюка ізноў напплыла імгла. — Можа такое здарыцца раз на мільён. Нявопытная, маладая жанчына была. А хто ж іх ведаў, што гэтыя немцы такія...

Калі пазней нам параілі, што можам расстарацца для маці рэнту па бацьку, як жонцы дзеяча КПЗБ, яна не захацела. Гэтыя грошы, відаць, не прынеслі б ёй шчасця.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*

## З'езд грамадоўцаў у Старым Беразове

*(працяг са стар. 1)*

нейкі партыйны сход прайшоў без паліцыйнай правакацыі. Супраць Грамады выступілі нават таварышы з Польскай сацыялістычнай партыі, аддаючы ў распараджэнне паліцыі дружыны сваіх баевікоў. Падчас сходаў Грамады ў Беластоку невядомыя людзі ўсчыналі скандал, бойкі, ствараючы падставы для ўмяшання паліцыі, якая найчасцей абвінавачвала ў парушэнні правапарадку лакальнае кіраўніцтва партыі.

5 снежня 1926 года ў Старым Беразове запланаваны быў з'езд Грамады Бельскага павета. Аб гэтым арганізатары паведамілі павятовыя ўлады і атрымалі дазвол на яго правядзенне. Ужо вечарам, напярэдадні з'езду, рушыла ў напрамку Новага Беразова рота коннай паліцыі. Наступнага дня на аўтамабілях і веласіпедах з Гайнаўкі, Нарвы, Нараўкі, Бранска накіравалася туды звыш ста пяцідзесяці паліцыянтаў, узброеных, апрача пісталетаў і вінтовак, у сем станковых кулямётаў. Паліцыя афіцыйна з'явілася ў Старым Беразове, каб забяспечыць парадак, але на яе транспарце былі прывезены ў вёску дзве сотні рабочых і нейкіх п'яных асобеняў з Бельска і Гайнаўкі. Праўдападобна рабочыя былі баевікамі адрозных партый. Улады рабілі ўсё, каб стварыць падставы для ўмяшання паліцыі згодна з законам, асабліва таму, што сярод удзельнікаў з'езду былі два паслы Сейма Рэчы Паспалітай, лідэры партыі — Павел Валошын і Пётр Мятла. Таму першыя заатакавалі грамадоўцаў баевікі, кідаючы чым папала ў вокны хаты Яна Тарашчоткі, у якой адбываўся з'езд. Калі гэтыя правакацыі не давялі да бойкі, баевікі ўварваліся ўсярэдзіну, а за імі, дзеля „забеспячэння парадку" — паліцыянты. Выйшла так, што іх шаблі падалі выключна на плечы і галовы ўцякаючых грамадоўцаў. Пакалечаны былі таксама паслы Валошын і Мятла, якіх сяляне са Старога Беразова завезлі ў Гайнаўку. Спыніліся яны ў доме Рыгора Вольчыка, якога на другі дзень агенты паліцыі страшэнна пакалечылі.

10 снежня беларускія паслы пра правакацыю ў Старым Беразове гаварылі ў Сейме, але большасць польскіх парламентарыяў не хацела іх слухаць. У лютым 1927 года Грамада была ўладамі распушчана, а яе кіраўніцтва — арыштавана. Сейм адобрыў палітыку санацыйнага ўрада, а маршалак Мацей Ратай нават дапамагаў людзям Пілсудскага фальшаваць дакументы супраць беларускіх калегаў. **Яўген Мірановіч**

## НАШЫ КАРАНІ

### XCIII. Непахісны

Папярэдне ўжо гаварылася, што ў заснаванага каля 1640 года Свята-Успенскага заблудаўскага манастыра, пасля часоў яго росквіту пры ўладанні Заблудавам праваслаўнай княгіняй Марыяй Радзівіл, насталі цяжкія часы. Іншаверныя яе спадчыннікі хоць і не ўціскалі, і не праследавалі манаскую брацію, але і нічым ёй не дапамагалі. З кожным годам змяншаліся сродкі да жыцця інакаў і дабрачыннай дзейнасці манастыра, а іншаверцы, асабліва уніяты, не спынялі націску на манастыр, прыкладвалі ўсялякія намаганні, каб яго ліквідаваць. Не было з чаго жыць, і брацііі ўсё меншала: з дванаццаці манахаў пры заснаванні абіцелі на канец XVIII стагоддзя засталося ў ёй усяго чатырох. Уніяты захапілі прыхадскую царкву. Калі з невядомых прычынаў згарэла манастырская царква, то іншавернае духавенства і яго іерархія вельмі дзіўна не дазваляла яе адбудоўваць.

У 1746 годзе ў манастыр былі перанесены са Зверкаў мошчы Святога Мучаніка-Дзіцяткі Гаўрыіла. Сярод праваслаўнага насельніцтва Падляшша гэта павысіла ранг і расславіла заблудаўскі манастыр. Яго сталі наведваць многія паломнікі, каб пакланіцца святым мошчам. Але іншавернаму духавенству такая слава праваслаўнага манастыра вельмі не падабалася, і на яго раз-пораз нападалі, узломваліся і рабавалі царкву, атакавалі святароў. Небяспека стала паграджаць і мошчам святога Гаўрыіла. І 9 мая 1755 года яны былі перанесены ў Свята-Троіцкі манастыр у Слуцку. Паданне перадае, што саркафаг (раку) са святымі мошчамі праз усю адлегласць з Заблудава ў Слуцк (болей за 300 кіламетраў) праваслаўныя неслі на руках, дарогу навакольнае насельніцтва выслала пасцілкамі і ручнікамі. Да шляху, якім вандравала Святыня, з блізкіх і далёкіх мясцін сышліся незлічоныя натоўпы праваслаўных, сталі абапал шпалерам і на каленях, са слязьмі ў вачах, прасілі ў Заступніка дапамогі і сілы перш за ўсё ў захаванні веры продкаў — Святога Праваслаўя.

Царкоўныя ўлады, каб падтрымаць заблудаўскі манастыр, які апынуўся ў вельмі цяжкім становішчы, спачатку падпарадкавалі яго моцнай Слуцкай архімандрыі, а потым вядомым абаронцам праваслаўя — епіскапам пераяслаўскім.

Перамагаючы розныя перашкоды і цяжкасці, заблудаўскі манастыр усё ж не пахіснуўся, не адступіў ад праваслаўя. Па-ранейшаму пры ім дзейнічала школа, хоць непрыхільнікі праваслаўя рабілі ўсё, каб знеахвоціць дзяцей наведваць яе. Быў таксама прытулак, нягледзячы на тое, што сірот і калекаў, якія там жылі, на вуліцах бязлітасна білі або цкавалі сабакамі.

Манахі працягвалі ранейшыя асветныя і культурныя традыцыі ходкевічаўскага Заблудава. У манастыры знаходзілася даволі багатая бібліятэка са зборам праваслаўных выданняў. У ёй былі не толькі кнігі з заблудаўскай друкарні, але і з друкарань Вільні, Масквы, Львова, Кіева і іншых.

Сваёй непахіснасцю ў веры праваслаўная брація давала прыклад свецкім праваслаўным людзям, падтрымлівала іх на духу. У манастыры падзвізаўся такі выдатны царкоўны дзеяч як ігумен Сафроній Міхальскі, адукаваны чалавек, разумны палітык і дыпламат, дбайны гаспадар і будаўнік.

Заблудаўскі Свята-Успенскі манастыр здолеў устаяць пры польскіх каралях і нямецкім кайзеры, але расейскі праваслаўны цар Аляксандр І яго знішчожыў — закрыў у 1824 годзе, а манахаў разаслаў па іншых абіцелях. **Мікола Гайдук**

# Канцэрт у Сопаце

30 лістапада 1996 г. на традыцыйныя „Andrzejki” ў Сопаце, у прэстыжным дворыку Серакоўскіх адбыўся канцэрт беларускага барда Андрэя Мельнікава. Большасць прысутных — гэта тутэйшыя беларусы, хаця прыйшлі таксама палякі, м.інш. старшыня „Wspólnoty Polskiej” у Гданьску Рональд Ланецкі. Інфармацыя пра сустрэчу з'явілася ў гданьскіх радыё і прэсе. Хаця гэты дзень не надта зручная нагода для канцэртаў, з увагі на папулярныя імяніны і традыцыйныя варажэнні, у дворыку сабралася каля сарака чалавек прагных паслухаць беларускую бардаўскую песню. Андрэй Мельнікаў заваражыў публіку патрыятычнымі беларускімі песнямі. А дыяпазон быў вялікі — ад народных песень па аўтарскія. Адно іх спалучала — беларуская незалежніцкая ідэя. Пра поспех канцэрта сведчыць час яго трывання — амаль дзве гадзіны — і вялікая цікавасць публікі да песень і асобы Андрэя Мельнікава. На жаль, бард не меў з сабой касет, а многія хацелі іх купіць.

Канцэрт адбыўся дзякуючы ўладам горада Сопата — прэзідэнту Яну Казлоўскаму і яго прэс-сакратару Войцеху Касу, якія далі бясплатна дворык Серакоўскіх і заплацілі скромны ганарар за канцэрт.

**Лена Глагоўская**
*Фота аўтара*



Барыс Руско

## Верш прачытаны ў сне

Пасечана,
за плечы часу
сцякае целам неба,
кашуля воблакаў.
Як месяца свайго
ў румянцы дня
гаснуць
у павеках зорак
адыходзячыя вочы.
Там, за сцяною,
даводзіш незнаёмай,
што ў браню пыхі
страсці прамень
угразі.
Не шмат дакажа
вуснаў скрыўленых
попел
і кропля застылая
сталі,
выціснута
з кучы касцей.
Той будзе ў месцы волі,
хто з розуму свайго
запаліць
каганец святла.
Горы пачуццяў —
глыбокае мора
няведання.

# Кашубы як беларусы

9 снежня ў Белавежы праходзіў цікавы семінар для галоўных рэдактараў штодзённак, якіх уласнікам з'яўляецца нарвежскі прэсавы канцэрн *Orkla Media*. Тэмай семінара была праблема нацыянальных меншасцей у лакальнай прэсе. Гаспадары сустрэчы — рэдакцыя „Кур'ера Параннага” — прадставілі даклад Казімежа Расінскага пра змаганне Праваслаўнай і Каталіцкай цэркваў за Супрасльскі манастыр у святле беластоцкай прэсы. Рэдактары „Новай Трыбуны Апольскай” даказвалі, што на Шлёнску Апольскім няма ніякай нямецкай праблемы. Выклікаюць яе зусім штучна прадстаўнікі прэсы з іншых куткоў Польшчы. Быў час,— сказаў галоўны рэдактар „Новай Трыбуны Апольскай” Мацей Сембеда, — што 250 тысяч жыхароў Апольшчыны дэкларавалі нямецкую нацыянальнасць, але цяпер іх колькасць рэзка зменшылася і даходзіць усяго да 50 тысяч. Большасць перадумала справу і вярнулася да своеасаблівай тутэйшасці — зноў акрэсліваюць цяпер сябе сілезцамі (шлянзакамі).

Мне, як запрошанаму госцю, прыйшлося расказаць пра тое, як польская прэса ў апошніх дзесяцігоддзях пісала пра беларусаў Беласточчыны. Спадзяваўся я бурлівай дыскусіі, але зараз узяў голас намеснік старшыні Кашубска-прыморскага аб'яднання Казімеж Клейна, які сказаў, што калі б у маім дакладзе ў месца, дзе выступае слова „беларусы” паставіць слова „кашубы”, атрымалася б апісанне сітуацыі прыморскай этнічнай меншасці. Кашубская мова, — сказаў спадар Клейна, — была сапхнутая да пазіцыі мовы вёскі. У апошніх гадах найчасцей карыстаецца ёю інтэлігенцыя кашубскага паходжання. Кашубы, так як і беларусы, галасуюць заўсёды іначай, чым апошняя частка грамадства, з тым, што на апошніх прэзідэнцкіх выбарах амаль стопрацэнтна аддалі яны галасы на Валэнсу.

Да 1990 года кашубы не маглі займаць ніякіх дзяржаўных пасад, не дазвалялі ім нават быць войтамі ў сваіх гмінах. Лёгка можна было іх адрозніць на падставе прозвішчаў. Былі іншымі, чым палякі, якія прыбылі сюды з цэнтра краіны. Улада не давярала кашубам. Забараняла ім нават служыць у ваенна-марскім флоце, а маладых хлопцаў замест у армію пасылалі ў шахты. Калісь немцы бачылі іх як надта мала нямецкі люд, пасля палякі — як надта мала польскі. Падчас нейкіх рэгіянальных святкаванняў народная ўлада забараняла нават афіцыйна выступаць у кашубскай народнай вопратцы. Апраналі прыезджых у лавіцкія ці мазавецкія рубашкі ды спадніцы і даказвалі такім чынам гістарычныя сувязі Прымор'я з Польшчай. Нават невядома чаму ўлады пазбягалі прымянення назвы „Прымор'е”. Сёння шмат змянілася, быць кашубам перастала выклікаць падазронасць, аднак некашубская большасць — паводле пана Клейна — глядзіць на іх як на фальклорную цікавінку. Кашубы тым часам чакаюць дазволу на сапраўднае самакіраванне сваімі гмінамі, на адпаведныя ўмовы для развіцця культуры і асветы на роднай мове. Чакаюць і галасуюць за еўрапеізацыю Польшчы.

**Яўген Мірановіч**

Алена Аншэўская

## Барысу Руско

У старым садку, дзе бацькоўская
хата
нямоднымі ўжо вокнамі глядзіць
на свет,
дзе яблыкі і слівы абрадзілі так
багата
жыве звычайна незвычайны
чалавек.

Яму вядомыя ўжо сцежкі
ў белавежскім лесе
пратаптаныя браканьерам —
яго дзедам,
магутныя дубы, сосны стройныя
бы свечкі
і розныя ўрочышчы ён зведаў.

Ды ён не паляўнічы на звярыну —
забіць нявіннае яму?
— дык лепш бы памерці!
Трэба натхнёным быць паэтам,
каб пад сухім лісцём цуды жыцця
знайсці.

Барысавы знаходкі ў лесе
— то шолах слоў, якімі шэпчуць
дрэвы,
то гойданне паветра і палыхтанне
свечкі
запаленай у гонар прааййца Адама
і прамаці Евы.

Мабыць з тае пары існуе гэтая
святыня,
дзе святары-дубы адвечны
малебень служаць.
І толькі адораныя паэты
ідуць туды маліцца і пропаведзі
слухаць.

Услухоўвайся Барыс, бо ты пачуеш,
што пра мінулае гамоніць стары лес,
дагледзіш мо, у якім урочышчы
начуюць
добры Дух Пушчы і нячысты Бес.

Адвечнае змаганне Добрага
са Злом...,
— магчыма ў гэтым сутнасць
існавання,
няхай бы счэзла нянавісць і зло,
а асталіся Ласка і Каханне —

да роднае прыроды, да людзей
і да ўсяго, што між зямлёй і небам.
У кароткі міг, якім і ёсць жыццё
паэтам так нямнога трэба.

# Як „Ніва” падвяла беларускую мову ў Гарадку

10 снежня г.г. у беларускай радыёперадачы для дзяцей дырэктар Пачатковай школы ў Гарадку Вера Тарасэвіч сказала: „Мы разлічвалі на дапамогу беларускіх арганізацый, тым часам падвяла нас «Ніва»”. Выказванне пані дырэктар вартае паяснення. Пры нагодзе хачу падзякаваць і Юрку Ляшчынскаму, які ўжо чарговы раз пускае без паяснення ў эфір выказванні „пакрыўджаных” герояў. Тым больш, што памяшчае іх у перадачы для дзяцей.

Я, як рэдактар „Зоркі”, вельмі часта наведваю гарадоцкую школу. Дзеткі з гэтае школы ўдзельнічаюць амаль заўсёды ў Сустрэчах „Зоркі”. Як цяжка дастацца на гэтыя мерапрыемствы, хопіць папытаць дзяцей з Бельшчыны і Гайнаўшчыны. Дарэчы, апошнім часам дзеткі з Гарадка сталі падпісваць на „Зорку”. Памалу завязваецца цікавае і плённае супрацоўніцтва. І гэта, відаць, перашкаджае пані дырэктар.

А цяпер пра тое, як я беларускую мову падвяла. Дадам толькі, што як рэдактар „Зоркі” я не маю службовага абавязку, у адрозненне ад пані дырэктар, арганізаваць навучанне беларускай мовы ў Гарадку.

У канцы школьнага 1995/96 года, па сяброўскай просьбе Лёніка Тарасэвіча, я дапамагала арганізаваць беларускую мову ў Гарадку. Не буду пісаць колькі каштавала мяне ўсё гэта. Пані дырэктар павінна ўсё яшчэ памятаць, а калі не, хай загляне ў дакументы. І гэта ўсё рабіла я добраахвотна.

У чым жа тут справа?

У 47 нумары „Зоркі” я надрукавала тэкст „Школьныя мерапрыемствы”. Там пісалася:

„Маскарад спрыяў добрай гульні. (...) Хлапчукі, як належыць легендарным партызанам, прыкідваліся паранеными. Яны быццам цацкі трымалі зброю. У Гарадку дзеці спецыялізуюцца ў разнавідных канкурэнцыях. Яны заадно могуць выступаць як дэкламатары ці спевакі ў беларускіх конкурсах, царкоўных, польскіх патрыятычных мерапрыемствах. (...) Гэта несумненна выгадная пазіцыя. Але ці не банальная, тандэтная? У сённяшні час трэба прывіваць сабе арыгінальнасць. Інакш нас няма!”

Тэкст, як мне здаецца, далікатны і лёгкаўнушальны. Няма тут здзеку ці варожасці да беларускай мовы(!). Такія словы пішуцца сябрам.

Чытачам належыцца тут паясненне. 8 лістапада 1996 г. у ПШ у Гарадку асвяцілі школьны сцяг (можна задумацца, чаму не 7 ці 11 лістапада?). Найбольш развесяліла мяне інфармацыя-даклад пра новых патронаў школы, партызанаў Хшаноўскіх, родам з падгарадоцкага Дзернякова. Прадставілі іх у прапагандысцкім, сацрэалістычным стылі. Тым больш, што апытаныя пасля гэтай урачыстасці прысутныя на свяце гарадчане на пытанне, што ведаюць пра сваіх герояў — партызанаў Хжаноўскіх, пацiскалі толькі плячамі.

— Там у тым Дзернякове Хшаноўскіх шмат, — адказвалі.

Нават Лявон Тарасэвіч (якога не запрасілі на ўрачыстасць) у адказ на гэтае пытанне пацiснуў плячыма.

— Хлопцы даліся непатрэбна застрэліцца, — адказаў падумаўшы.

Пра герояў з Дзернякова амаль нічога не ведалі і сябры з Беларускага гістарычнага таварыства. Пішу ўсё гэта таму, каб паказаць розніцу паміж прапагандай і сапраўднай мінуўшчынай.

Найбольш смешнай паказалася мне т.зв. „артыстычна частка”. У ёй партызаны з Дзернякова спявалі акаўскія песні і называлі сябе „leśni”. Цешыць мяне, што не пакрыўдзіліся дзеткі. Гэты тэкст быў накіраваны ім. Маю надзею, што пані дырэктар пераможа сваю нянавісць да мяне, і не будзе забараняць сваім дзеткам падпісвацца на „Зорку”. Хаця, папраўдзе, не здзівіла б мяне гэта. У беларускім асяроддзі — у „бочцы з пацукамі”, як яго называе мой рэдакцыйны сябра, усё можа здарыцца. Прапаную таксама пані дырэктар спрачацца ў цывілізаваны спосаб. Бо ніхто, апрача яе „пакрыўджаных” настаўнікаў, гэтага не зразумее.

**Ганна Кандрацюк**

PS. У час „мастацкай часткі” вучні дэкламавалі некалькі разоў мудрыя словы Віславы Шымборскай:

*Ziemio ojczysta, ziemio moja*
*nie będę powalonym drzewem (...)*
*Można nie kochać cię i żyć*
*ale nie można owocować.*

І тое ж самае хацела сказаць і я дзеткам у артыкуле „Школьныя мерапрыемствы”. **Г. К.**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


Лонданская вуліца.

# Пропуск у свет

У лістападзе ў нашай школе была наладжана экскурсія ў Англію. Мэтай яе было не толькі наведванне цікавейшых закуткаў Лондана, але і паглыбленне ведаў па англійскай мове. З намі былі дзве настаўніцы-англісткі з нашай школы.

Спачатку мне было сумнавата, што, апрача мяне, з нашага класа нікога не было, было яшчэ толькі трое хлопцаў з паралельных шостых класаў. Усе іншыя былі з сёмых-восьмых класаў. Але як толькі аўтобус крануўся з месца, усе адразу пасябравалі і ўжо няважна было, хто з якога класа.

Спачатку мы, даехаўшы да Бельгіі, некалькі гадзін аглядалі Астэнду, з якой пасля паплылі паромам у Англію. На пароме былі чатыры гадзіны. Даплыўшы да горада Дуўр, мы на нашым аўтобусе падаліся ў Лондан. Англія прывітала нас цудоўным сонечным надвор'ем, тэмпературай — 19°C, а мы ж спадзяваліся, што там будзе стаяць іхняя славутая імгла. У нас ужо 11 лістапада, калі мы выязджалі, было холадна.

Нас размясцілі ў падлонданскай мясцовасці Гэстынгесе, на прыватных кватэрах. З гаспадарамі і ўсюды на вуліцы давялося гаварыць толькі па-англійску. Аднойчы на вуліцы Гестынгеса я ўбачыла дваіх разгубленых старых немцаў — бадай гэта былі муж і жонка. Яны падышлі да нашай групы і, спытаўшы, адкуль мы — з Расіі ці з Польшчы, спыталіся (спачатку па-нямецку, а пасля схамянуліся і перайшлі на англійскую мову), як знайсці дарогу да іх гатэля. Я адказала ім, што ведаю дарогу і магу іх правесці. Немцы тыя былі вельмі задаволены, што сустрэлі сваіх суседзяў, г.зн. — нас.

Штодзённа нас давозілі ў Лондан і там мы праводзілі час ад 10-ай да 19-ай гадзіны. Наведалі мы найцікавейшыя месцы ў сталіцы Вялікабрытаніі. Былі ў розных музеях, бачылі палац каралевы Лізаветы — „Бэкінгам" — я нават сфатаграфавалася побач з гвардзейцам каралеўскай коннай гвардыі.

У музеі васковых фігур мадам Цюсо я ўбачыла шмат вядомых асоб — каралёў, прэзідэнтаў, мастакоў, кампазітараў, спартсменаў, вучоных: прэзідэнта Расіі Ельцына, былога прэзідэнта Польшчы Валэнсу, прэзідэнта ЗША Клінтана, каралеву Англіі Лізавету і яе мужа — князя Філіпа, а таксама каралеву-маці, караля Іспаніі Хуана Карласа, тэнісіста Барыса Бэкера і Мартыну Наўрацілаву, артыста Арнольда Шварцэнэгера, біёлага сэра Давіда Атэнбораў, кампазітараў Моцарта і Бетховена, славутага мастака Пабла Пікасо, а таксама лэдзі Даяну, славутую беларускую гімнастку Вольгу Корбут і шмат-шмат іншых.

У Брытанскім музеі мне найбольш спадабаліся егіпецкія саркафагі і вырэзбленая ў камені галава Нэферціці. Агледзелі мы таксама Брытанскую галерэю. Вядома, не бачылі мы ўсяго, бо на гэта не хапіла б нам часу.

Мы агледзелі таксама будынак парламента і побач з ім Біг-бэн — славуты гадзіннік, што б'е гадзіны, Трафальгар-сквер і іншыя закуткі.

Наведалі мы і Таўэр — славутую калісьці турму з дваццаццю вежамі, там аглядалі залы, у якіх тартуравалі вязняў, бачылі камплектную зброю караля Генрыха VIII і шмат іншых рэчаў. У гэтай турме было замучана многа нявінных людзей. Хадзілі мы па Таўэрбрыджы (мосце каля Таўэра).

Былі мы таксама на пляцы Пікадзілі — найбольшым гандлёвым цэнтры Лондана. Тут знаходзіцца найбольш фірмовых крамаў, між іншым, фірма „Лі".

Наведалі мы і Чайн-таўн — т.зв. кітайскі горад. Гэта такі раён, дзе жывуць мясцовыя кітайцы. Тут усё кітайскае — і крамы, і рэстараны.

У музеях трэба было сачыць за сваімі сумкамі. Я свой невялічкі рэчмяшок насіла спераду, а не ззаду, і яшчэ рукамі прытрымлівала яго, як дзіця. І толькі тады, калі бачыла, што нікога чужога не было паблізу, не трымала яго. У адной дзяўчынкі з нашай групы выцягнулі кашалёк, які яна палажыла ў рэчмяшок, а мяшок вісеў на плячах.

Пару разоў у Лондане нашы апякункі давалі нам вольны час. Я спачатку пайшла купіць падарункі маме, тату, бабулі і дзядулі. У англійскіх крамах было шмат мілых дробязей. А пасля я выбралася ў Чайн-таўн, бо мне хацелася там нечага пакаштаваць у кітайскім рэстаране. Нашы гаспадары кармілі нас даволі слаба. Раніцай — аўсянка, ды яшчэ грэнка з джэмам, к вечару — нешта накшталт піццы.

У кітайцаў я выбрала сабе рыс, а рысінкі тыя былі загорнутыя ў нейкія марскія раслінкі. І ўзяла яшчэ рыбу, якая выглядала, быццам была цертая на тарцы, з гароднінай. Усё гэта, як і трэба, я ела палачкамі, хаця можна было есці і відэльцам.

Дома мая бабуля аж прысела, калі даведалася, што я адна хадзіла па Лондане. — Божа мой! — усклікнула яна, — а мы ж цябе тут, у Беластоку, і ў музычную школу, і на танцы — усюды водзім!

А мне зусім не было страшна, ды і не згубілася я, як баяліся мае бацькі. Англія — гэта 13-ая замежная краіна, якую наведала я. Праўда, першы раз я была без сям'і. Але, ведаючы мову, можна ўсюды дайсці. Праўда, я яшчэ не гавару па-англійску цалкам свабодна, але ўсё-такі штораз лепш. Цяпер мне 12 гадоў, а пачала я яе вывучаць, калі мне было ўсяго 6 гадоў.

— Так, — уздыхнула бабуля. — Замежная мова — гэта пропуск у свет. Вучыся, дзіця!

**Адрыяна Семянюк, Беласток, школа № 9**

P.S. Апрача пакражы, здарылася і яшчэ адна непрыемная гісторыя. Адна дзяўчынка прысела ў гаспадароў на каларыфер і абламала яго. Англічане запатрабавалі ад яе 45 фунтаў, або, сказалі, не аддадуць яе рэчаў. Што было рабіць, звярнула яна ім амаль усе грошы, прызначаныя на дробныя выдаткі. Жыццё ў Англіі цвёрдае. **А.С.**



*Пры ўваходзе ў Таўэр. Першая справа — аўтарка.*

## Вершы Віктара Шведа

### Змаганне з быком

Сыночак з татам быў у вёсцы,
Быка сустрэў там на палосцы.
З быком магутным дзядка Саша
Ад ранку тузаўся на пашы.

Бабулю запытаў Андрушка:
— Маеш чырвоную дзяружку?
Хачу я быць, бабуля, сведкам,
Як з тым быком ваюе дзедка.

### Інтэлектуал

Настаўніца Сярожу
На ўроку запытала:
— Каго назваць мы можам
Інтэлектуалам?

Падказвае, што бліжэй
Сядзіць Сярожкі — Ліза:
— Каму ў чытанні кніжак
Не шкодзіць тэлевізар.

### Віртуоз

Кажа маці: — Мой Яўген
Здольны нечувана.
Ён іграе як Шапэн
Нам на фартэпіяна.

— Ці ж такі ён віртуоз? —
— Падумайце самі:
Ён расчульвае да слёз
Ужо дзвюма рукамі.

## Птушкі

Дзяцел сеў на грушу,
Дзяўбе дзірку гладку:
Пэўна ён на зіму
Робіць сабе хатку?

Маленькая сінічка
На вішаньку прысела,
У акно паглядзела,
Скваркі захацела.

Вось прыгожыя гілі
На каліну селі,
Ягадак нарвалі
Ды ў лес паляцелі.

Жаўтабрушкі скачуць —
Пэўна есці хочуць.
Трэба штосьці сыпнуць,
Хай яны акрэпнуць.

Курапатка тожа —
Птушачка прыгожа.
Дзед ёй сыпнуць можа,
Бо ён мае збожжа.

Сарока-белабока
Ў хлявок уляцела
(Курачка сакоча):
Яечка хацела.

Верабей ад ранку
Скача каля ганку:
Выйдзе хлопчык Янка,
Кіне абаранка?

**Мікалай Ігнацюк**

# Вучнёўская творчасць

### У заапарку

Аднойчы я быў у ZOO,
Бачыў малпаў сто.
Сядзеў там павіян,
Які еў банан.
Бачыў таксама льва —
Звяроў караля.
Як пабачыў усіх звяроў —
То і ў хату сам пайшоў.

**Марыюш Янушкевіч**
**ПШ у Нарве**

### Мой сабака

Мой сабака — вялікі.
Мае гладкую, доўгую поўсць.
Любіць вельмі каўбаску,
І апетытна яе есць.

Калі дамоў я вяртаюся,
Ён брэхам вітае мяне.
Дарагі мой сабачка —
Я вельмі люблю цябе!

**Кася Нацкоўская**
**ПШ у Нарве**

### Кніжныя звяры

Я маю сваіх звяроў:
аднаго сабаку і двух катоў.
Люблю я з імі гуляць
і казкі ім апавядаць.
Маю таксама і жырафу
і слана, і вялікую малпу,
і яшчэ пяць куранят —
у маёй кніжцы для дзетак.

**Анэта Яканюк**
**ПШ у Нарве**

### Зіма

На двары зіма.
Яна грозная і марозная.
Яна снежная і белая,
Аднак і прыемная.

На двары зіма.
Яна вясёлая і сумная.
Яна свята прыносіць —
Добрыя, цёплыя Каляды.

На панадворку зіма.
Усе дзеці лепяць снегавікоў,
Усе дзеці катаюцца на санках,
Усе любяць нашу зіму!
Хаця яна марозная так!

**Дыяна Яканюк**
**ПШ у Нарве**

# Пішуць школьнікі

### Добры дзень, Зорка!

На пачатку майго ліста шлю Табе вельмі сардэчныя прывітанні. Мяне завуць **Эмілія Місяйчук**. Я вучаніца восьмага класа Пачатковай школы ў Новым Корніне. Мне чатырнаццаць гадоў.

У нас новая школа. Вучыцца ў ёй семдзесят шэсць вучняў. Ад гэтага школьнага года колькасць вучняў павялічылася, таму што дайшлі вучні са школы ў Новым Беразове. Класы I—II і III—IV у нас спалучаныя, апошнія V—VIII — аддзельныя.

Мы вучымся розным прадметам, ходзім на беларускую мову, а як замежную вывучаем рускую мову. У нас вялікі школьны будынак, прыгожы, двухпавярховы. У школе многа залаў, у тым ліку і гімнастычная, кухня, сталовая, прасторныя калідоры. У школе працуе дзесяць настаўнікаў. У нас беларускую мову вядзе **Ніна Куптэль**.

Мы выпісваем „Ніву", якую я вельмі люблю чытаць. Ахвотна рашаю крыжаванкі, цікавяць мяне таксама вершы і апавяданні.



Браты Адам і Лукаш Назарукі з дзедам Грышам. Жывуць яны на хутары Слівава каля вёскі Кленікі. Хлопцы вучацца ў Пачатковай школе ў Кленіках, Адам у чацвёртым класе, Лукаш — у трэцім. Вывучаюць яны беларускую мову і, вядома, чытаюць „Зорку".

*Фота Міколы Ваўранюка*

# Чарадзейнае красала

24 лістапада гэтага года ў беластоцкім тэатры імя А. Вянгеркі адбылася прэм'ера пастаноўкі „Чарадзейнае красала" („Czarodziejskie krzesiwo") паводле байкі Х. К. Андэрсена. Рэжысёрам гэтай пастаноўкі быў Януш Гамершміт, а яе гледачамі, у прыгнятальнай большасці, дзеткі, якія тлумна папрыходзілі як з самога Беластока, так і наехалі цэлымі экскурсіямі з-па-за горада.

Нічога дзіўнага ў гэтай тлумнасці не было, бо рэжысёру спектакля выдатна ўдалося патрапіць пад густ маладога гледача. Прыгоды смелага жаўнера, што вандраваў сабе па свеце, былі аформлены ў сучасныя музычныя рытмы і багата перабіваліся песнямі. А да таго ж — дзеі праходзілі на сапраўднай вялікай сцэне ды з удзелам сапраўдных жывых акцёраў, а не лялек.

Страшная на выгляд чараўніца хацела зачараваць увесь свет, але кепска ёй гэта выходзіла, бо адабрала ў яе чарадзейную моц. І што яна ні рабіла — прыдумвала найдзіўнейшыя закляцці, скакала дзікія танцы, махала рукамі. Усё гэта безвынікова. Чараўніца ведала, аднак, што можа сабе вярнуць сваю моц і паняволіць свет — каб толькі дастаць з дупла старога дрэва чарадзейнае красала. Красала сцераглі трое сабак і ўсё гэта было не так проста. Чараўніца, прыкінуўшыся немачнай жанчынай, падмовіла жаўнера схадзіць за красалам. Жаўнер быў чалавек малады і смелы. Ён спусціўся ў старое дупло і там абдурыў усіх сабак, што сцераглі красала. Першы страшэнна любіў спаць — жаўнер яго падлашчыў, праспяваў калыханку і паклаў да сну. Другі сабака быў вялікі франт — любіў дарагую і шыкоўную вопратку ды ўвесь час фарсіў веданнем замежных моў. Калі ўсё гэта скеміў жаўнер-герой, дык перамог і яго, кажучы незлічоныя кампліменты сабаку-франту. Але з трэцім стражнікам зусім не ўдалося б, каб не дапамога малых гледачоў. Трэці сабака быў вельмі мудрагелісты і паставіў жаўнеру тры цяжкія пытанні. Той жа, ніколі сам не даў бы рады, каб не падказала яму маладая публіка ў тэатры...

Што далей было, я расказваць не буду. Хто глядзеў спектакль, добра ведае. А хто не бачыў, можа захоча наведаць тэатр і паглядзець „Чарадзейнае красала".

**Марцін Пытычка**

# Крыжаванка № 51

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку" на працягу трох тыдняў. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Увага!** Няма патрэбы дасылаць крыжаванку выразаную з газеты. Вы можаце дасылаць адказы на картачцы, на якую трэба наклеіць талон. Не забывайце таксама напісаць свой адрас.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Pastwisko / Kapusta | | Burza / Zapach | | Klepisko | Żaba | |
| | | | | | | |
| Kula / Kochanka | | | | Ob | | |
| | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 47:** баба, вожык, жак, пан, якуты, жоран, род, яр, акула, жах, пляж, божая кароўка, кажан, урад, бык, сток, ял, жак, млын, араб.

Узнагароды — **касеты гурту „Белы сон"** — выйгралі: **Юліта Тамчук**, ПШ у Кнарыдах, **Аліна Анапюк**, ПШ у Ласінцы, **Івона Харкевіч** з Беластока, **Грышка Цітко**, ПШ у Гарадку, **Радаслаў Вішанка**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Паўліна Савіцкая**, ПШ у Гарадку, **Анна Швед**, ПШ у Новым Корніне, **Анэта Яканюк**, ПШ у Нарве, **Кацярына Янушкевіч**, ПШ у Кнарыдах, **Паўліна Скепка**, ПШ у Дубінах.

Віншуем!

**Узнагароды спансаравалі спадарства Альжбета і Віктар Стахвюкі з Беластока.**

Запрашаем таксама і іншых бацькоў, сімпатыкаў „Зоркі" спансараваць дзеткам узнагароды.

# Як свіння ваўка перахітрыла

***(беларуская народная казка)***

У невялікай вёсцы, што побач лесу размясцілася, жылі гаспадар з гаспадыняй. Небагатыя былі, мелі крыху зямлі, статак курэй ды свінчо. Гаспадыня любіла сваю жывёлу: чухала свінню між вушэй і ласкава называла яе: свінка мая, свінка. Свінка плюшчыла свае маленькія вочкі і прыязна рохкала. Аднойчы, было гэта ўжо ўвосень, гаспадыня пачухала свінку і кажа:

— Ой, няма ў мяне часу па жолуд схадзіць, так ты і паправілася б, але столькі яшчэ працы ў полі. Давай, я цябе заганю ў лес, дзе расце вялізны дуб і ты сама наясіся. Толькі памятай, далей не ідзі, каб цябе воўк не схапіў. Наеўшыся, вяртайся дахаты.

Свінка адхрукнула на згоду і пайшла за гаспадыняй. Пад дубам сапраўды было шмат жалудоў. Крыху перарытая і стаптаная зямля вакол дуба сведчыла, што тут ужо іншыя абедалі.

Свіння, паеўшы крыху, разглянулася па лесе і падалася шукаць лепшага месца. Хутка знайшла такі дуб, што надта шчодра рассыпаў свае плады, вялікія, смачныя. Пачала хрускатаць жалуды. Але тут з-за магутнага дубовага пня заблішчэлі воўчыя вочы. Свінка спужалася. Стаіць бы нежывая і думае: „Няўжо тут мне канец будзе?" Прыпомніла тады перасцярогу гаспадыні, але было ўжо запозна задумоўвацца над гэтым. Ажно пачула воўчыя словы:

— Наядайся больш, паправішся, а тады я цябе з'ем.

Свінне ўжо апанавала першы страх і думала, як ёй тут пры жыцці астацца. Прыйшла ёй у свіную галаву такая хітрая думка:

— Вось бачыш, — звярнулася яна да воўка, — я надта худая, адны косці, ні сала, ні мяса на мне няма. А ты такі ветлівы і пазваляеш мне наесціся, але доўга чакаць, пакуль я патлусцею. У мяне лепшая прапанова. У маім хляве асталося 12 пузаценькіх парасят. Вось гэта мяса! Сядай мне на спіну, я цябе завязу ў вёску. З'ясі колькі захочаш, а што астанецца, то ў мяшок напхаем і ў лес пацягнем назаўтра. Ды яшчэ і гонар цябе можа спаткаць. Вось ніяк у нас не могуць выбраць старшыню, усё няма адпаведнай асобы.

— А ці ты, свіння, не лжэш? — строга спытаў воўк.

— Клянуся, што кажу праўду! Перакананаешся сам, калі пад'едзем да вёскі. Я тады пачну вішчаць на ўвесь голас, каб людзей склікаць. Скажу, што вязу на спіне адпаведную асобу на старшыню. Калі пабачаць, які ты прыгожы, смелы і разумны, у адзін голас за табою будуць.

Воўк, падумаўшы, паверыў свінні. „Вось шанц мне трапляецца, трэба яго выкарыстаць", — вырашыў. Сеў на спіну свінні і падаліся ў вёску. Там свіння пачала вішчэць на ўвесь луг, людзі збегліся, падняўся крык: „Чыю свінню воўк душыць?" Беглі хто з чым: хто з калком, хто з матыкай, хто з віламі. Што далей было, казаць не трэба. Ледзь жывы воўк даваlокся да лесу і горка раздумваў: „Вось мяса мне траплялася, самое ў пашчэнкі лезла, але мне ўлады захацелася. Стары дурань — дурнейшы за свінню".

А свінка, схаваўшыся ў хлеў, цешылася, што жывою асталася, сорамна ёй было толькі ад таго, што не паслухала свае гаспадыні.

*Ад свае маці, жыхаркі Белавежы запісала*

**Алена Анішэўская**



**Талон „Зоркі" № 51**
**22.12.1996**

Якія мы людзі

# Гасціна

Усе маюць прэтэнзіі да мяне, што спазняюся, з кожнай справай цягну да апошняй хвіліны. І праўда, ні на цягнік, ні на нейкую імпрэзу не прыйшла я ніколі, як чалавек, каб мець нейкі паўгадзінны запас, спакойна пасядзець, адпачыць, разгледзецца. Ну што ж, жыццё маё было заўсёды перапоўнена падзеямі, і каб разглядацца, хто ў якой прыйшоў сукенцы, я нават і часу шкадавала б. А можа я толькі так апраўдваюся сама перад сабой? Людзі ж мяне найлепш ведаюць. Калісь дамовілася я на дзесятую гадзіну з дзяўчатамі з Ігнатак (з тымі, што святкавалі Новы год па-праваслаўнаму і, не згадзіўшыся плаціць штраф „za zakłócanie ciszy nocnej”, трапілі ў суд). Дзяўчаты карэктныя і прыйшлі ў рэдакцыю на пятнаццаць мінут раней, а мяне няма. Памаркатнелі, а тадышні галоўны Віталь Луба ўсміхаецца: „А дзесятай яна будзе, але ні мінуты раней!”

А што ўжо гаварыць пра тое, каб напісаць нейкі тэкст наперад, не спяшаючыся і не седзячы перад гэтым ноч! Ну, хоць бы рубрык пару мець у запасе — тэмы ж тут універсальныя... Дык жа не — сцягну да апошняга, а тады ні суботы, ні нядзелі няма спакойнай, бо ў панядзелак-аўторак усе матэрыялы маюць быць здадзеныя.

* * *

Вядома, не была б гэта я, калі б і на гэты раз не спазнілася. Знаёмая запрасіла мяне на свае імяніны на шостую гадзіну, падкрэсліўшы пры гэтым, што будзе яшчэ пару асоб.

З дрыжачым сэрцам стаяла я каля дзвярэй аднапакаёвай кватэры маёй знаёмай і не магла рашыцца пазваніць. На маім гадзінніку ўжо была палова сёмай, а з кватэры чуваць былі мешаныя — жаночыя і мужчынскія — галасы.

Урэшце я пазваніла. А што? Стаяць жа век пад дзвярыма не буду. Вунь нават правілы добрага выхавання гавораць аб тым, што ў госці прыходзяць з пятнаццацімінутным спазненнем. Прынамсі тады ўжо гаспадыня не пакажацца з накручанымі на бігудзі валасамі, а гаспадар паспее скінуць свае стаптаныя хатнія тапачкі. Падумаеш, спазнілася на паўгадзіны! Што я, да карыта спяшаюся?! Прыходжу павесяліцца, а не нажэрціся і напіцца. А няхай сабе ўсё там паз'ядаюць! Што я, у хаце не маю чаго есці?!

Мае сумныя разважанні з самой сабою спынілі хуткія крокі гаспадыні. Дзверы адчыніліся — і я механічна кінулася з кветкамі да імянінніцы. Павіншавала яе ў паўцёмнай пярэдняй і хацела цмокнуць у шчаку, але, як толькі я дакранулася да яе, нешта слізкае прыклеілася да майго твару. Гаспадыня правяла мяне ў пакой і прадставіла сваім знаёмым і калегам з працы, якія сядзелі хто дзе папала. І тут, у святле, я ўбачыла нештаневерагоднае: госці, запрошаныя, пэўна, як і я, на шостую гадзіну, сядзелі і чакалі, а гаспадыня яшчэ асвятляла сабе валасы. Цэлая галава яе была белая ад пены, такім жа белым было намазана пад носам, каб знейтралізаваць так званыя „вусікі”. Дурніца, падумала я, пэўна, не чытала Льва Талстога, які ў „Вайне і міры” пісаў, што „вусікі” ў жанчыны сведчаць аб яе страснасці.

Знаёмая была яшчэ незамужняя і рабіла ўсё, што магла, каб выглядаць прыгожа і выйсці ўрэшце замуж.

Не знайшоўшы сабе месца нідзе, апрача падлогі, я вырашыла пакуль што прайсціся на кухню і можа там нешта памагчы. Божа! Гаспадыня толькі яшчэ мясіла цеста, з якога збіралася пячы пірог.

Не, гэта не быў смешны фільм. Гэта быў нейкі кашмарны сон, адзін з тых, што мучаць мяне ад часу да часу: прыходзяць госці, а ў мяне трасуцца рукі, бо яшчэ не ўсё гатова. Альбо прыходзяць няпрошаныя госці, а ў мяне амаль няма чым іх пачаставаць.

Але сёння ў гэтай хаце сабраліся ўсе, як адзін, прошаныя госці. Імяніннніца мяшала і мяшала сваё цеста, а я маліла яе, каб кінула яго. Абыдзецца без пірага! — пераконвала я яе, але яна была ўпартая.

Уставіўшы пірог у духоўку, яна пачала насіць на стол у пакоі нейкія салодкасці і гарэлку. Галава — ну, няхай бы сабе ўжо была намазаная, але тыя белыя вусы! Дальбог, можна было страціць апетыт. Думаю, што калі некаму з тае кампаніі яна і падабалася, дык той няшчасны дзень быў апошні. Але гаспадыня, як бы і не заўважала іроніі з боку сяброў, а асабліва сябровак, якія хіхікалі ў кулак. Найважнейшае для яе было цяпер — каб валасы і „вусікі” асвятліць. Рэшта (а ў тым ліку і госці) была няважная.

Мне стала шкада гэтай дзяўчыны. Ну, што яны рагочуць?! Гэта ж для іх яна робіцца прыгожай і для іх пячэ пірог. А што не паспела?! Адна ж яна. Маці хворая і не дапаможа ёй ні ў чым, а мужа ж яшчэ не мае, хаця і стукнула ёй ужо трыццаць пяць.

Сказаўшы гасцям, каб частаваліся, гаспадыня знікла на нейкі час. З лазенкі даходзіў плюск вады ў ванне, а пасля чуваць была праца сушылкі.

Была роўна дзевятая гадзіна, калі імяніннніца, шыкарная і пахучая, з пушыстымі валасамі, прадстала перад госцьмі ва ўсёй сваёй красе. У яе высока паднятых руках быў паднос, на якім ляжаў яшчэ цёплы пірог з яблыкамі.

Мо ў кагосьці і пацякла слінка, але большасць гасцей ужо збіралася дамоў. Самі выпілі і закусілі салодкім, а на гаспадыню ўжо фактычна ніхто і не глядзеў, бо нагледзеліся тады, калі падавала на стол з белымі вусамі.

* * *

Мо часамі варта спазніцца і на некальні гадзін, думалася мне ў тыя фатальныя імяніны. Але факт фактам: пасля гэтага здарэння я стараюся быць пунктуальнай. А чытачам пішу пра гэта дзеля прафілактыкі: святы ж на носе!

**Ада Чачуга**

# Сумнае развітанне

15 лістапада 1996 г. на гданьскіх могілках Ластавіцы развіталіся мы з нашым дзеячам Вячаславам Стукавым, які памёр раптоўна 10 лістапада на 56-м годзе жыцця. Быў ён настаўнікам і перад усім экскурсаводам. Змаглі з ім, між іншым, пазнаёміцца бельскія ліцэісты пару гадоў таму назад. Гэта па яго ініцыятыве яны наведалі Гданьск на самых карысных умовах. Кожная сустрэча з ім зводзілася да аднаго: трэба нам тут арганізаваць экскурсіі для дзяцей і моладзі з Беласточчыны, каб змаглі яны пабачыць мора і прыгажосць Гданьска. Дзякуючы Вячаславу, між іншым, да нас прыязджалі таксама ліцэісты з Менска. Ён, працуючы ў турыстычнай галіне, заўсёды ведаў, дзе можна танней закватаравацца і прахарчавацца. Заўсёды служыў радамі ў нашых турыстычных паходах і мерапрыемствах. І раптам яго не стала. Толькі пасля смерці прыйшлося даведацца пра яго цяжкі жыццёвы лёс у Польшчы, у якую разам з сям'ёй прыехаў з Гродна ў 1957 г., як „рэпатрыянт”. Польшча расчаравала яго ва ўсіх спадзяваннях. Але ніколі пра тое не казаў. Быў сціплы, спакойны, працавіты — сказалі яго дырэктар школы і прадстаўнік ПТТК (РТТК). Дарэчы, ніколі яму не хапала часу на свабодныя размовы, гаварыў толькі аб справах, толькі пра турызм. А з беларускім рухам у Гданьску Вячаслаў Стукаў звязаўся ажно ў 1967 г., стаяў у яго вытокаў тут над морам, разам з іншымі маладымі — тады — хлопцамі і дзяўчатамі.

Няхай Табе, Вячаслаў, на тым свеце сняцца турыстычныя шляхі і мерапрыемствы, а мы будзем удзельнічаць у іх з Тваім незабыўным духам спакою і памяркоўнасці.

**Лена Глагоўская**

# Пыласос

— Прыйдзе паказаць пыласос, — заявіла аднаго дня жонка, вярнуўшыся з працы. — Не толькі дываны чысціць, але і фіранкі, мые... Знаёмая нараіла нас. Не хацела сказаць толькі, колькі ён каштуе.

Дзесьці праз два дні пазваніў тэлефон. Гэта *дылер*; дагаварыўся на восем вечара ў суботу.

Наогул, калі нехта дагаворваецца на нейкую гадзіну, дык прылазіць найчасцей дваццаць-трыццаць хвілін пазней. А тут — роўна а восьмай пазваніў званок! Адкрыў я дзверы — перада мною стаяў малады чалавек з чамаданам і дзвюма вялікімі кардоннымі каробкамі. Элегантна апрануты; у белай рубашцы і пад гальштукам — гэтага патрабуе канон дзелавога чалавека. Запыхаўся страшэнна, бо, як не апранайся, завалачы такі груз на пяты паверх даволі цяжка. Аддыхаўшыся крыху і паправіўшы гальштук, насільшчык пыласоса папрасіў склікаць усю сям'ю.

Селі мы паслухмяна, быццам куры на градзе, на канапе, а госць наш выняў са свайго чамадана нейкія шматкі дыы паперы. У паперах тых, з пячаткамі, якісь вроцлаўскі прафесар даказваў вялікую карысць ад пыласоса „Rainbow” („Вясёлка”) для алергікаў. Навуковыя высновы былі пацверджаны табліцамі, у якіх стаялі розныя лічбы, сэнс якіх цяжка было ўцяміць, бо госць не пакідаў на гэта часу, а раздаў нам па чорнай шматцы, якою загадаў пацерці па руцэ. Шматка тая пасвятлела ад пацірання і дзелавік пад гальштукам растлумачыў нам, што гэта сапрафіты, якія жывуць у нашай эпідэрме і якія вельмі небяспечныя для нашага здароўя. Каб падмацаваць тую небяспеку, паказаў нам малюнкі, дзе былі паказаны тыя сапрафіты: сінія, з доўгімі зубамі-іголкамі і тулавам, быццам апрануты ў навейшую калекцыю моды Пака Рабанэ — выклікалі яны сапраўдны жах. Страпянуўшы пылок са шматкі, наш прасветнік паказаў, у якой небяспецы мы жывём!

Затым госць папрасіў прынесці наш хатні пыласос. Выняўшы з яго мяшочак, паказаў ён з дапамогай лямпы, што нават з папяровым укладышам наша прылада не затрымоўвае найбольш небяспечных мікраарганізмаў. І тут ён прыступіў да прэзентацыі свайго тавару. Прабавалі мы нясмела пытацца, колькі ён можа каштаваць, але госць рашуча адтэрмінаваў адказ на нашу цікавасць. Папрасіўшы наліць у рэзервуар пыласоса вады, паказаў, як збірае ён пыл з паветра: у вадзе плывала шмат пылінак. Далей, наліўшы некалькі кропляў эўкаліптавага арамату, даказваў, што такім чынам можна надухмяніць паветра ў кватэры на восем да дзесяці гадзін — вядома, для інгаляцыі і здароўя ўсё гэта. Потым паказаў яшчэ, як хутка затыкаецца смеццем наш традыцыйны пыласос і што ён амаль нічога не чысціць. І сапраўды: на дыване выразна бачна было розніцу паміж яго прыладай, да якой далучыў яшчэ прыстаўку для выбівання пылу, і нашай хатняй, у якую я толькі што паклаў свежанькі укладыш. Заглянуўшы ўсярэдзіну, хатні пыласос быў амаль чысты, калі ў прапанаваным з вады зрабілася балота — толькі пылу выбіў! Пасля гэтага, як на ўзорным уроку, спытаў нас усіх, ці наш пыласос чысціць. У такой сітуацыі адказ быў толькі адзін. А які пыласос чысціць?! — з трыумфам пытаў ён далей. Тут адказ не быў патрэбны. Ці вы хацелі б мець у сябе дома такі пыласос? — не здаваў тэмпа госць. Ну, пэўна што хацелі б!

Паказаў яшчэ, як пыласос прыбірае небяспечныя сапрафіты з тапчана, як выцягвае паветра з падушкі, як чысціць мэблю, як можна з яго зрабіць пульверызатар і насос. І калі ўжо мы ўсё гэта пабачылі, тады раскрыў свае паперы, у якіх стаяла яго цана. Радочак лічбаў адкрывала пяцёрка. Можа быць, — падумалася мне, наш жа „просты” каштаваў не так даўно менш за паўтара мільёна... І ў гэты момант я згледзеў апошнія лічбы цаны: было іх не тры, а дзве! Грошы значыць — значыць і цана ў новых, дэнамінаваных, залатоўках. А тая пяцёрка спераду — гэта не мільёны, а тысячы... Новых злотаў!

— О-о-о! — пакруціў галавою я. Моўчкі абселі і мае хатнія.

— Калі вы возьмеце цяпер, атрымаеце скідку і заплаціце на тысячу злотаў менш! — заахвочваў джэнтльмен у гальштуку.

Пакруціў я адмоўна галавою ў адказ.

— Ці можна пакарыстацца вашым тэлефонам? — спытаў госць. — Я мушу далажыць шэфу, што я на „прэзентацыі”.

— Дакладвайце.

Хвіліну нейкую пасля пазваніў „шэф”, праверыць свайго прадаўца. Той пытае „шэфа”, можа неяк нам дапамагчы... „Шэф” просіць мяне да тэлефона. Размова ветлівая, пераконвае мяне, што здароўе не мае цаны:

— Што важнейшае: здароўе ці грошы...

— Калі грошы малаважныя, дык можа *gratis*?

Адказу на гэта няма; развітваемся ветліва. Наш госць просіць яшчэ даць тэлефоны знаёмых, якія маглі б быць зацікаўлены пыласосам. Могуць быць нават такія, пра якіх думаеце, што не купяць, падказвае — ад колькасці сабраных тэлеадрасоў „шэф” плаціць прэмію. Толькі каб цаны не называць...

Ну, так, падумалася мне пазней: тыя што не маюць грошай асабліва схільныя верыць у розныя цуды, у тым і ў аздараўленчую моц пыласоса і, магчыма, запазычацца нават дзеля здзяйснення стэрыльнай чысціні ў сваёй кватэры. А мы ж жывем тым часам у свеце, дзе тых мікробаў поўна, і стварэнне выгодаў арганізму толькі аслабляе яго...

Наступнага дня сказаў я знаёмым, якіх тэлефон запісаў разносчыку.

— Мы ведаем пра гэтыя пыласосы, — адказалі. — Колькі ўжо іх напсавалася! Навывальвалі людзі грошай... А атмасфернага забруджання ніякі пыласос не ачысціць.

Адно толькі ветрае ён даволі надзейна: кішэні.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Бежанскія нягоды

**Наталля КАМАРЧУК (дзявочае: Пятроўская) нарадзілася 5 жніўня 1905 года ў Орлі. Тут да выбуху сусветнай вайны паспела закончыць толькі першы клас расейскай школы. Пасля прыйшло бежанства. Сёння 92-гадовая жыхарка Орлі дэталёва расказвае пра бежанскія нягоды.**

Нашу сям'ю пасялілі ў горадзе Раманаў Яраслаўскай губерні, які размяшчаецца на левым беразе Волгі. У нізе ракі, памятаю, былі такія мясцовасці як Яраслаў, Растоў, Рыбінск. Жылі мы над самой Волгай, на вуліцы, якая называлася Волжская набярэжная. З акна было відаць судны на рацэ. У наш дом пасялілі сорак сем'яў. У пакоях былі зроблены нары і ў кожным з іх жыло па некалькі чалавек.

На самым пачатку нашага знаходжання ў Расіі жылі мы вельмі бедна, проста нэндзна. Харчаваліся прывезенымі сухарамі (сушанымі хлебам і булкай). Пасля ўсім бежанцам пачалі кожны тыдзень выплачваць гэтак званы „паёк" — па 20 капеек у дзень на душу. За гэта можна было купіць, напрыклад, чатыры французскія булкі па 5 капеек. Стала нам лепш жыць, калі маці пайшла працаваць парабчанкай.

Тамашнія людзі ставіліся да бежанцаў прыхільна, са спагадай. Прапанавалі работу і кожны, хто хацеў, мог працаваць. Бацька пайшоў на работу ў лес. Плацілі яму рубель у дзень.

Паслалі мяне ў школу ў Раманаве. Вучылася я там чатыры гады і лічылася выдатніцай. У мяне была вельмі добрая памяць і нават сёння магу прадэкламаваць даўжэзны верш, якога навучылася я восемдзесят гадоў таму. Настаўнікі гэтай школы любілі мяне, а адна настаўніца нават брала мяне з сабою на абед. Іншыя дзеці зайздросцілі мне.

Я ўвесь час таўклася каля Волгі і навучылася добра плаваць, як рыба. Пасля вяртання ў Орлю дзеці празвалі мяне па гэтай прычыне Волга-Волга. Хаця я невялікага росту і дробнай косці, была адважнай дзяўчынай і хацела дапамагаць бацькам. У час канікул збірала ягады і суніцы. Выбрала я сабе лясок за магутнай ракой. Цераз Волгу кожны дзень перапраўляў мяне ў абодва бакі на лодцы суседаў сын, шаснаццацігадовы Алёшка. Назбіраўшы кошык ягад, несла я прадаваць іх. За поўнае „блюдечко" (сподачак з-пад шклянкі) ягад плацілі 35 капеек. Тры „блюдечка" і атрымоўваўся рубель. А бацьку, каб зарабіць рубель, прыходзілася цяжка працаваць у лесе цэлы дзень. Прыносіла я дадому і грошы, і міску ягад для таты і для сваёй настаўніцы. Памятаю, што змучаны бацька саджаў мяне на калені, цалаваў і гаварыў: *Дзетятко мое, я за дэнь одін рубэль заробію, а ты — шэсць рубліе.*



Быў ваенны час і мужчын прызывалі ў войска. У мяне ўзялі двое братоў. Хацелі таксама забраць і бацьку, паколькі яму было тады толькі сорак гадоў; але маці вельмі плакала, станавілася на калені перад ваеннымі. Відаць, пашкадавалі жанчыну.

У бежанстве масава паміралі дзеці. На маіх вачах аднае ночы памерлі дзве дзяўчынкі — сёстры Люба і Ліда, дочкі Марылі Пятроўскай. Мясцовы могільнік знаходзіўся на падмоклым грунце. Станунь капаць магілу, а яма адразу вадой напаўняецца. Мой тата гаварыў: *Нэ дай Божэ тутай ховатысь. Поедэм до Орлі, там у нас пісочок на могілках.*

Прыйшоў 1918 год. Тата рашыўся вяртацца на радзіму. Аднадумцаў назбіралася больш. Далі нам таварныя вагоны, пагрузілі і прывезлі ў Бельск. У Орлю пайшлі мы пехатою. Наш дом занялі яўрэі і запаскудзілі. Каля хаты сустрэлі мы свайго сабаку, якога потым застрэліў немец за тое, што ўкусіў яго. Гэта быў братаў паляўнічы сабака, які спрытна лавіў зайцоў. Шкадавалі мы яго, бо тады дапамагаў нам перажыць.

Калі мы вярнуліся, то былі яшчэ тут немцы. Да праваслаўных і яўрэяў ставіліся яны добра. Многа будынкаў згарэла, але падпальвалі іх праўдападобна свае нядобрыя людзі. У нашай царкве ў час вайны захоўвалася збожжа. Не было бацюшкі і людзі хавалі нябожчыкаў і маліліся самі.

Зноў стала цяжка жыць. Трэба было пайсці служыць у яўрэяў у Бельску, Орлі, Гайнаўцы. Працавала я ў іх амаль дваццаць гадоў. Яшчэ сёння добра ведаю яўрэйскую мову — іўрыт. Калісьці я нават умела пісаць па-яўрэйску.

*Запісваў і фатаграфаваў*
**Міхал Мінцэвіч**

# Дзядзька Кандрат

Калі я ў верасні 1965 г. стаў працаваць пісьманосцам, дзядзька Кандрат з Руткі Дубіцкай гміны ад году быў ужо цяжка хворы: адняло ногі, былі цяжкасці з мочай. Была гэта тая бадай хвароба, ад якой і сёння няма паратунку. Дзядзька Кандрат не падаў, аднак, духам. Падружыў я з ім з першага дня і па 10-20 мінут гутарыў з ім; каб гэта ўсё недзе запісваў, атрымалася б тоўстая кніга.

Дзядзька Кандрат меў цяжкое жыццё, як кажуць „ад яйца да канца". Пры санацыі ажаніўся з Матронай, мясцовай прыгажуняй, але яна часта хварэла і ўсе абавязкі скаціліся на мужа. Меў ён многа добрай зямлі, у тым ліку і пасажнай, і рабіў на ёй як конь. Меў з гэтага многа збожжа, бульбы, сена; пару коней, некалькі кароў, некалькі дзесяткаў авечак. Летам наймаў работнікаў, каб абрабіць гаспадарку і нікога з іх не пакрыўдзіў. Быў ён чалавекам справядлівым і прынцыповым: не лаяўся, не хлусіў, на нікога рук не падняў, на чужое дабро не гарнуўся, гарэлкі не піў. Казаў мне, што за ўсю кавалерку не больш літра прапіў.

Не ўсе людзі былі аднак такія добрасумленныя як Кандрат. Былі жулікі і зладзюжкі, якія часта выкарыстоўвалі Кандратаву дабрыню і прыцішанасць: абкрадалі яго і рабілі шкоду на ягоным полі. Ноччу яго коням прывязвалі да шыі дошкі і мясілі маладую рунь на полі. А аднойчы над раніцай укралі яму ўсе авечкі; дзядзька прыкмеціў іх і кінуўся наўздагон, але яны ўцяклі за рэчку. Білі яго слабшыя, бо ведалі, што Кандрат не будзе адбівацца, бо бойку лічыў ён вялікім грахом. Насміхаліся і здзекаваліся над гэтым чалавекам як толькі маглі. Аднойчы, да вайны яшчэ, Кандрат паехаў да камендант паліцыі ў Бельску, з якім добра жыў, і паскардзіўся на жулікаў, што яму спакою не давалі. Камендант даў яму дазвол на пісталет, і дзядзька купіў сабе сямізарадны за 20 злотаў. Я не верыў, думаў што мог гэта быць пугач, але жыхары Руткі пацвердзілі, што гэта была сапраўдная агнястрэльная зброя, якою ён і так ніколі не карыстаўся.

Дзядзька Кандрат ніколі не хлусіў і сам верыў таму, што другія гаварылі, хаця гэта бывала і чыстаю маною. Выкарыстаў гэта Леўка, Кандратаў сваяк па жонцы, за якога пазыку Кандрат паручыўся. Леўка пазычаныя грошы прапіў, а Кандрат мусіў прадаць некалькі кавалкаў зямлі, каб паплаціць Леўкавы даўгі. Калі прыйшлі саветы, Леўкаў сын Васька, які стаў тады міліцыянерам, адабраў Кандрату пісталет. Сам Кандрат, як адзін з багацейшых, меў быць вывезены ў Сібір, але саветы не паспелі.

Пры немцах Рутка была спалена, загінула 16 чалавек, а жывых немцы выгналі ў суседнюю вёску Рудуты. Пасля вайны людзі вярнуліся і пачалі жыць „ад пяці пальцаў". Кандрат паставіў хатку і так жыў на зруйнаванай гаспадарцы. Дачкі пападрасталі і хлопцы штовечар прыходзілі да іх на вечарынкі. Моцна шалелі — аднойчы нават печ развалілі. А Кандрата „для гумару" часта бралі пад рукі і выкідалі з яго ўласнай хаты ў снег і дзядзька вымушаны быў ісці да суседзяў.

Кандрат быў самавукам, але добра чытаў і пісаў. Біблію ведаў амаль на памяць і разбіраўся ў ёй як ніхто другі. Добра таксама арыентаваўся ў палітыцы. А ўжо гадаць сны — дык ніхто лепш ад Кандрата не ўмеў; мой сон перад вяселлем разгадаў ён „на пяцёрку".

Было ў яго шасцёра дзяцей: тры дачкі і тры сыны; найстарэйшай была Ганна, вядомая сёння ўсім знахарка. Памагае яна брату Паўлу, які халасцяком вядзе бацькоўскую гаспадарку. Другая Кандратава дачка Надзя жыве замужам у вёсцы Шышылы, а Надзі дачка ў Варшаве; яе муж — пасол Януш Пехацінскі, часта выступае па тэлебачанні. Трэцяя дачка Насця таксама жыве ў Варшаве. Другі сын Сцяпан жыве ў Гайнаўцы і часта прыязджае памагаць брату. Наймалодшы з іх Пятро ў прымах дзесьці каля Бельска-Падляшскага.

Дзядзька Кандрат пяць гадоў цяжка хварэў, аднак ніколі ён не злаваў і не падаў у меланхолію. Часта гаварыў мне: „Коля, камунізм разваліцца на цэлым свеце як мыльны пузыр, а Германія стане аднай дзяржавай". Я не згаджаўся з ім, гаворачы, што камунізм скора апануе ўвесь свет. А ён на гэта: „Коля, ты памыляешся; я гэтага не дачакаю, бо хворы, але ты дачакаешся, і ведай: толку і тады не будзе, бо камунізм заглыбока запусціў свае карэнні".

І адкуль мог гэта ведаць наш Кандрат, які памёр 3 чэрвеня 1969 г. на трэці дзень Тройцы?

**Мікалай Панфілюк**

# Жыццё Івана Сахарчука

Іван Сахарчук нарадзіўся ў 1907 годзе ў вёсцы Бялкі, што ў гміне Нарва. Васьмігадоваму хлапчуку давялося выязджаць са сваімі бацькамі ў бежанства, у якое падчас І сусветнай вайны падалася большасць праваслаўнага насельніцтва заходніх губерняў царскай імперыі. Добра ён памятае, як фурамі ехалі аж у горад Мінск. Там іх пагрузілі на поезд, а бацька застаўся, каб прадаць каня. Завезлі іх у Разанскую губерню, але не прыпамінае ён назвы станцыі.

Выгрузілі іх і яны некалькі дзён сядзелі на вакзале, чакалі мужчын, якія засталіся прадаць сваіх коней у Мінску. Калі ўсе далучыліся да сваіх сем'яў, тады разанцы прыехалі падводамі і паразбіралі бежанцаў па навакольных вёсках. Кажа Іван, што Разань была нянадта багатай губерняй, але людзі былі вельмі добрыя. Давалі ім тое, што самі мелі, ахвотна прымалі ў свае хаты.

Калі ўжо можна было вяртацца з бежанства на радзіму, яны пачалі збірацца ў зваротнае падарожжа. Вярнуліся ў Бялкі ў 1922 годзе. Вёска была спалена — толькі чатыры хаты асталося, на панадворках расло пустазелле ды скрозь маладыя лес.

Цяжкі тады быў Іванаў лёс. Не было чаго есці, а будавацца ды карчаваць лес на сваёй цераспалосіцы трэба было. Але чалавек усё перанёс. Ажаніўся ён у 1928 годзе, узяў сабе за жонку сваю суседку Вольгу Паўлючук, якая нарадзілася ў 1909 годзе. Так яны пражывалі разам з бацькамі на гаспадарцы.

У 1934 годзе нарадзіўся ў іх сын, якому таксама далі імя Іван. Калі паўміралі бацькі, яны сталі самастойна працаваць на бацькавай гаспадарцы. Рознае бывала ў жыцці Івана Сахарчука. Часта быў галодны, халодны, быў на возе і пад возам, але стараўся і пабудаваў прыгожыя будынкі. Пасля ІІ сусветнай вайны паслаў вучыцца свайго сына. Закончыў ён медыцынскую фельчарскую школу, але ў сваёй спецыяльнасці нядоўга прыйшлося працаваць. Іван купіў у Беластоку па вуліцы Збажовай пляц і там пабудаваў хату. Прадаў на вёсцы ўсе будынкі і перабраўся ў Беласток. Працаваў у прадпрыемстве ПКС, адкуль і пайшоў на пенсію. Сын ажаніўся, а Іван дачакаў трох унукаў. Цеснавата было жыць у адной хаце і тады Іван, калі паўміралі яго цесці, адкупіў іхнюю хатку і зноў перабраўся ў вёску Бялкі. Сын памёр у 1988 годзе і дзеду давялося памагаць гадаваць унукаў.

Хоць Іван Сахарчук са сваёй жонкай Вольгай супольна жывуць ад 1928 года, ніхто аднак не пацікавіўся, каб даць ім медалі за супольнае жыццё, хоць ужо даўно мінула 50 гадоў ад іхняга шлюбу.

Я жадаю дзядзьку Івану і яго жонцы Вользе доўгага шчаслівага супольнага жыцця.

**Мікалай Лук'янюк**

У кіпцюрах цецерука

# Пратэст

— Вось і памянялі нам дзяржаўны сцяг, — адазваўся Сарокін, углядаючыся ў нейкі, сабе толькі вядомы, пункт на абдзертай сцяне блёка.

Прысеў на лавачцы побач Смургацэвіча. Маўчалі хвіліну, шукаючы ў думках адпаведных для новай сітуацыі слоў.

— Та-ак. І што цяпер будзе?

— Як, што будзе, — насцярожыўся Сарокін. — Пратэст пісаць будзем. Я ўжо, так сказаць — і пачаў справу. Чалавек дзесяць падпісаліся. Сёння.

Тут Сарокін дастаў з кішэні невялікі лісток паперы.

— Паглядзіце, вось дзесятак прозвішчаў. А калі збярэцца яшчэ дзесятак, ды яшчэ... Ого, народ! А мо і вы падпішаце, а? Тут вось, дзе свабоднае месца, — паказаў пальцам.

— Та-ак. Чаму ж не. Вядома, падпішу. Толькі, бачыце, клопат ёсць. Акуляры дома пакінуў...

— Ды навошта акуляры. Я пакажу дзе пісаць.

— Усё-такі, ведаеце, прачытаць трэба. Ну, разумееце...

Смургацэвіч ніколі ды нічога не падпісваў не прачытаўшы раней раз, або і два ці тры разы. Нават паштовы перавод, які ад дзесяці гадоў штомесяц прыносіў яму адзін і той жа самы лістаноша, прывык Смургацэвіч аглядаць з усіх бакоў. То прыбліжаў яго да вачэй, то аддаляў, выцягваючы руку, то падыходзіў да акна, каб з дапамогай натуральнага асвятлення расшыфраваць беспамылкова ўсе літары і лічбы.

— Спадар Смургацэвіч, — ад дзесяці гадоў пісьманосец заўжды ў аднолькавы спосаб канчаў гэты цырыманіял: — Давайце хутчэй. Другія пенсіянеры таксама чакаюць.

Так вось яно адбывалася. Асцярожны быў Смургацэвіч.

— А гэты, — падумаў, — нібы ён і сусед, а чорт адзін ведае, што за пазухай хавае. І хоча, каб падпісаць не чытаючы... — Ведаеце, спадар Сарокін, я пратэст сам напішу. Вы, сваёй дарогай, а як жа, збірайце. А я — сам ад сябе. У газету напішу, або і яшчэ далей. Няхай бачаць, што не з адной крыніцы вада ў нас. Нанясём удар, так сказаць, з двух бакоў.

Так і разышліся. Сарокін накіраваўся ў суседні блёк у пошуках адзінаццатага подпісу, а Смургацэвіч — на дзевяты паверх, у сваю кватэру. Не на тое, каб седзячы пярдзець у мяккае крэсла. Ён пайшоў дамоў з ясна акрэсленым намерам: выкаваць сталёвыя словы, якія змогуць вярнуць назад зрабаванае нам усім дзяржаўнае багацце.

Змаганне з матэрыяй слова пачаў Смургацэвіч адвячоркам. Падмацаваны энцыклапедыяй, геаграфічнымі картамі, а нават слоўнікамі прыказак і іншамоўных слоў, памаленьку і асцярожна, каб не спалохаць летуценнай думкі, адкрываў новы раздзел не толькі свайго жыцця. Адкрываў таксама і новую эпоху прыгожага пісьменства, якую калісьці там, у непрадбачанай будучыні літаратурныя і навуковыя даследчыкі назавуць хамелеанізмам і трывала замацуюць у скарбніцы агульначалавечай думкі.

Усе гэтыя засмарканыя дзецюкі, ідучыя якраз пакорліва спаць, яшчэ не ведалі і не прадчувалі, што чарговы геній пачаў якраз барацьбу за бяссмерце чалавечай (а гэта значыць таксама і іхняй) душы.

Чалавецтва таму хіба бесперапынна ўлазіць на чарговыя ступені касмічных драбін, што калі маленькія людзі спакойна спяць, геніі за іх думаюць. Думаў і Смургацэвіч.

— Калі ўжо пісаць, тады толькі самому Галоўнаму. Газеты, вядома, як газеты. Заблытаюць, запутаюць, а то яшчэ і адкінуць.

„Спадар Прэзідэнт!, — пяро пайшло ў бой. — Вы вельмі кепска робіце, знішчаючы нашы народныя сімвалы".

Прачытаў напісанае і задумаўся:

— Моцна сказана. А мо замоцна, не спадабаецца. І пляваць у калодзеж, калі ён — як ні глядзі — свой? Захочаш напіцца — сядай у цягнік і едзь сабе, пі. Помні толькі, што калодзежы тут найглыбейшыя ў свеце час ад часу бываюць.

Не ведалі гэтага Аляхновіч Францішак, Гародня Алесь, Дварчанін Ігнат, Кульбак Майсей, Таращкевіч Браніслаў. Загаварыліся хлопцы над калодзежным зрубам і па-айшлі галовамі ўніз. Патапіліся — бы кацяняты сляпыя...

Сумненні раздзіраюць душу кожнага аўтара. Геніяльны ён, пасрэдны ці звычайны графаман — няма тут ніякіх выключэнняў. Творчы працэс у Гётэ не так ужо і вельмі адбягае ад таго, які пляцецца ў галаве нікому невядомага пачаткоўца.

— Не, — падумаў. — Не і не! Пратэст пратэстам, а людзі мы ўсё-такі культурныя. Супакойся Смургацэвіч. Пачні яшчэ раз.

„Шаноўны Спадар Прэзідэнт. Здаецца мне, што вы не вельмі добра робіце, знішчаючы нашы народныя сімвалы".

Прачытаў раз, потым другі і трэці:

— Праклятыя творчыя сумненні. І што гэта значыць, — знішчаючы?! Адно хуліганы знішчаюць дрэўцы ў парку. Або аўтобусныя паўстанкі, выбіваючы „люксферы". А прэзідэнт, які ён хуліган? А сапраўды, хто там ведае, мо і добры чалавек? Напэўна добры. Дарадчыкі ягоныя, вось гэта дрэнная халера. У тупік давялі чалавека.

Так і трэба пачаць: „Шаноўны Спадар Прэзідэнт. Я ведаю, што Вы — чалавек добры. З гэтай прычыны, думаю, і прыліпаюць да Вас усякія паразіты-дарадчыкі. Вы іх не слухайце, а ганяйце бы сабак праклятых".

Прачытаў раз, другі і трэці (навошта я гэта паўтараю?) і задумаўся:

— Дурань ты, Смургацэвіч. А хто ж, як не дарадчык нейкі, ліст гэты чытаць будзе? А мо і ён чалавек някепскі. Пакрыўдзіцца. Або, што горшае, зазлуе і пакараць задумае. Эх, сумненні творчыя, творчы працэс праклятый!

Смургацэвіч адлажыў пяро і ў той момант задрыжэлі сэрцы развешаных у бязмернай вышыні неба анёлаў-старажаў прыгожага пісьменства:

Хамелеанізм — наймалодшы сынок у сям'і літаратуры — толькі што народжаны, а ўжо збіраецца на той свет!

Усё-такі анёльскі страх аказаўся лішнім.

Ёсць у чалавечых вантробах нешта такое, што пасля першай выпітай чаркі падмаўляе, каб наліць ды выпіць другую, а нават трэцюю і чацвёртую. І хаця чалавек адмаўляецца, запіраецца рукамі і нагамі, гэтая нябачная сіла (некаторыя называюць яе алкагалізмам) і нальле чарку, і ў рот данесці паможа.

Кожнае мастацтва, а літаратура перш за ўсё, гэта нішто другое, як самая чыстая разнавіднасць алкагалізму. Раз перакуленая чара слоў сама напаўняецца і ў горла цуркам сама льецца. Медыцына акрэслівае такі выпадак як безнадзейны.

Смургацэвіч першую чару перакуліў. І калі ўжо ведаў, што з прэзідэнтам і дарадчыкамі ягонымі выпіць немагчыма, вырваная з дрымоты смага папіхала яго шукаць нейкага субяседніка.

За нарыхтаваны стол „Ніва" трапілася зусім невыпадкова: крыху свая-ка — дык не адмовіцца, мурашка — дык не адаб'ецца.

Хамелеанізм першы раз пасля цяжкой хваробы расплюшчыў вочы, усміхнуўся:

„Ты, «Ніва», маўчы. Памянялі сцяг — значыць так і трэба. Моські брэшуць, а прэзідэнты ідуць далей".

Кожны, нават найлепшы кусок літаратуры патрабуе, каб нехта пад ім падпісаўся, гэтак сама, як кожнае дзіця патрабуе бацькоўства. З дзецьмі, праўда, усяк бывае. Здараецца і тое, што пішуць адны, а падпісваюцца другія. З літаратурай справа наогул менш складаная. Можна падпісаць яе сваім прозвішчам, можна і псеўданімам. Уважлівы чытач і так здагадаецца, чыя рука пяро вадзіла.

Падпісаць напісанае сваім, атрыманым у спадчыну па бацьках прозвішчам Смургацэвіч не мог. Адно паштовыя пераводы падпісваў звычайна Смур-га-цэ-віч. Усё другое штампаваў нейкім псеўданімам. Былі гэта наогул пячаткі банальныя, просценькія, як банальнымі і просценькімі атрымоўваліся напісаныя да гэтай пары тэксты. А тут патрабавалася пячаць яркая, моцная. І такая ў Смургацэвіча прыжылася. Калісьці, даўно таму пабываў ён у матросах. Праўда, усяго тры дні, пакуль не выявілася, што вада — субстанцыя яму надта рэдкая. Усё-такі маральнае права, каб пакарыстацца псеўданімам „Стары матрос", у Смургацэвіча было.

Так і падпісаўся. І каб не думалі скептыкі, што „Стары матрос", гэта звычайны трус, абавязаўся, калі ўжо надрукуецца „сочинение", даслаць назву карабля, на якім амаль не прыйшлося яму правесці трох гадоў марскога жыцця.

**Міхась Андрасюк**

# Свята

*(Быль)*

Цвыркун праснуўся. Нейк горача зрабілася. Карцела паварушыць нагамі, крануць струны скрыпкі. Здавалася, сон доўжыўся, а ў тым сне, на высушаным ветрам лузе, сярод шаўковай травы і кветак, якімі ветрык калыхаў, клаўся на іх, і ўсё яму паддавалася, таму веянню і трапятанню, і Цвыркун аддаўся пяшчоце лета. Працягнуўся, распрастаў рукі і ногі, пакратаў сваю скрыпку, пацягнуў смыком па струнах. Ой, зайграў бы хоць зараз песню ветрыку і птушкам! Адплюшчыў адно вока — ды не, сядзіць тут, у цёплым куточку ў кухні Дзеда з Бабай. Ды і не так тут і цёпла, каб вызваляцца ад сну і за скрыпачку брацца! З восені вось тут Цвыркун сядзіць, раз-пораз прабуе, ці не заснулі струны, ці не аплёў іх павучок. Баба з Дзедам і так задобра не чуюць ягоных рэпетыцыяў і канцэртаў, са змрокам хутка павячэраюць, святло ў кухні гасяць, ідуць у пакой, уключаюць тэлевізар, і доўга праз прыадчыненыя дзверы падае ў кухню блакітнае святло, нешта гудзіць і траскоча. Моцна, бывала, стараўся іх звабіць Цвыркун назад у кухню, пілікаў на скрыпачцы, аж пашчэнкі яму балелі, але глухаватыя Дзед з Бабай нават пры гэтым грукаце і выстралах на экране пачыналі падрэмваць. Аж заснуў быў урэшце цвыркун, думаў спакойна дачакаць вясну.

А кухня ў Дзеда з Бабай такая прасторная! Выправілі ж яны ў свет шасцёра сыноў і дочак. Калісьці ўсе тут разам сядалі за гэтым сталом. Вядома, Цвыркун не такі ўжо стары, каб памятаць той час, калі Дзед з Бабай былі маладымі, моцнымі. Ведае іх цяпер, нядужых, хоць стараюцца ўсё ж тэпаць і рабіць нешта. Поля ўжо ў іх свайго няма — зямлю чужыя ўзялі, бо дзеці яго не хацелі. Цвыркун, праўда, бачыў летам нейкіх меншых людзей на падворку, як і ва ўсёй вёсцы. Ой, небяспечная дзетвара, ледзь вырваўся са слоіка, у які злавілі яго з братам. З меншым сваім братам Цвыркун так і не пабачыўся больш... Калі пахаладзела, людзі пазачыняліся ў хатах. Забраўся і Цвыркун у хату Дзеда з Бабай. Вось так і днюе тут ды начуе, гора не мыкае, але і цешыцца няма чым, абы хутчэй тая вясна... Можа ўдасца сям'ю завесці Цвыркуну, дзетак займець у наступнае лета, разжыцца крыху. Жыць жа трэба, род прадаўжаць... От, спаў бы сёння, ды нейк занадта прыпякае... Ці не вясна ўжо?.. І нейкая мітусня ў кухні, гоман! Такога тут хіба даўно не было! І так светла, як на лузе ў спякотны поўдзень, калі цень кароткі і дыхаць цяжка... А чаго ж яны так крычаць, пайшлі б хутчэй на пакоі!

Не, сёння яна, кухня, якая карміла і паіла, вітае гасцей — даўно не бачаных дачку Нюрку і сына Колю з іхнімі мужам і жонкаю ды дзецьмі, таксама дарослымі, разам дзесяць душ, калі не лічыць Дзеда з Бабай, Цвыркуна і кудлатага пісклявага сабачкі, што з гасцьмі прыехаў. Баба завіхалася, бегала, але чамусьці цяпер села, вочы выцірае, за грудзі хапаецца. Дзед усіх цягне ў пакой, але пакуль ім добра за гэтым сталом на тоўстых кручаных нагах. Гудзе агонь у пліце, бразгоча посуд...

Цвыркун не можа супакоіцца. Разпораз ірвецца рука да смыка, але ў такім гомане хто ж яго пачуе!

— Якое свята! — пляскае ў далоні Баба. — Шкада, што пост, то загулялі б...

— Які... пост? — дзівіцца зяць Аляксей. — Новы ж год праз тры дні!

— Ды не наш, Алёшка, не наш жа ён. Але сёння для нас — найбольшае свята. Напісалі б раней, то хоць мы падрыхтаваліся б...

— Мы ўсё маем, мама, — кажа дачка Нюрка. — Заўтра ўсе едзем у Вену, на „Сільвестра". Пуфіка пакінем у вас да вясны, можна? Толькі што ён, мама, бульбы не есць, сабакам бульба шкодзіць. Будзеш памятаць?

— Вядома, Нюрка, сабачка ж мясовы.

Цвыркун не спаў доўга. Праўда, з кухні хутка ўсе пайшлі ў пакой, уключылі тэлевізар, гаманілі. А пасля Цвыркун іграў сыну Дзеда і Бабы, таксама ўжо немаладому. Коля доўга сядзеў за сталом у пляме святла з вулічнага ліхтара (электрычны слуп стаіць у гародчыку), падпёршы галаву. Можа драмаў, можа — слухаў Цвыркуновы канцэрт? З такой думкай Цвыркун, рады добрай справе, заснуў пад печкай, падклаўшы скрыпачку пад сваю зялёную шчаку.

**Міра Лукша**

# Позірк у мінулае

**22 снежня**

1858 г. — нар. Джакама Пучыні, італьянскі кампазітар.

1900 г. — у Ніццы паказана ўпершыню аўтамабіль „Мерседэс”.

1989 г. — памёр Сэмюэль Бэкет, ірландскі пісьменнік.

**23 снежня**

1777 г. — нар. Аляксандр I, расейскі цар.

1933 г. — нар. Акігіта, японскі імператар.

1940 г. — брытанскія бамбардзіроўшчыкі памылкова скінулі 55 бомб на Цюрых; загінула 55 асоб.

**24 снежня**

1491 г. — нар. Ігнацыус Лаёла, іспанскі заснавальнік ордэна езуітаў.

1524 г. — памёр Васка да Гама, партугальскі мараплавец.

1798 г. — нар. Адам Міцкевіч, польскі паэт.

1871 г. — прапрэм'ера оперы Джузепе Вердзі „Аіда” ў Каіры.

1883 г. — нар. Стэфан Ярач, польскі акцёр.

1901 г. — нар. Аляксандр Фадзееў, савецкі пісьменнік.

1953 г. — расстраляны Лаўрэнцій Берыя, савецкі палітык.

**25 снежня**

498 г. — кароль меравінгаў Хлодвіг прыняў хрысціянства, кладучы падваліны пад магутнасць дзяржавы франкаў.

800 г. — папа Леў III каранаваў Карла Вялікага рымскім імператарам.

1848 г. — нар. Хрыста Боцеў, балгарскі паэт і змагар за свабоду.

1904 г. — царскія ўлады знялі абмежаванні друку на беларускай мове.

1921 г. — памёр Уладзімір Караленка, украінскі паэт.

1938 г. — памёр Карал Чапек, чэшскі пісьменнік.

1989 г. — расстраляны Ялена і Нікалае Чаўшэску, румынскія палітыкі.

1991 г. — Міхаіл Гарбачоў пакінуў пост прэзідэнта СССР.

**26 снежня**

1792 г. — нар. Чарльз Бэбідж, англійскі матэматык, канструктар першых механічных вылічальных машын.

1825 г. — у Пецярбургу ўспыхнула паўстанне дзекабрыстаў.

1890 г. — памёр Генрых Шліман, нямецкі адкрывальнік Троі.

1893 г. — нар. Мао Цэ-дун, кітайскі палітык.

1904 г. — нар. Алеха Карпенцьер, кубінскі пісьменнік.

**27 снежня**

1822 г. — нар. Луі Пастэр, французскі бактэрыёлаг.

1901 г. — нар. Марлена Дзітрых, нямецка-амерыканская актрыса.

1934 г. — Персія змяніла назву на Іран.

1979 г. — савецкія войскі ўварваліся ў Афганістан.

**28 снежня**

1622 г. — памёр Францыск Салезскі, французскі тэолаг.

1872 г. — нар. Піо Бароха, іспанскі пісьменнік.

1908 г. — землятрасенне на Сіцыліі, якое прычыніла смерць к. 100 тыс. людзям.

1920 г. — упадак Слуцкага паўстання.

1925 г. — памёр Сяргей Ясенін, расейскі паэт.

1945 г. — памёр Тэадор Драйзер, амерыканскі пісьменнік.

1959 г. — памёр Антэ Павеліч, харвацкі палітык. **(Ш)**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. зайцаў крок, 8. прадак шкарпэткі, 9. настаяцель мужчынскага манастыра, 10. калючае пустазелле, 11. канторскі служачы на Захадзе, 13. кіраваў панскай гаспадаркай, 15. горад у Беларусі, 16. памяшканне для самалётаў, 20. вадкасць, якая астаецца пасля збівання масла, 22. горад у Ферганскай даліне (Узбекістан), 23. усходні цудатворца, 27. хімічны элемент з сімвалам O, 29. сталіца Албаніі, 30. народ, 31. над зямлёю, 32. напр. спявак, 33. Рыгор, беларускі музыказнавец і этнограф, 34. біблейны прарок.

**Вертыкальна:** 1. ядавітая вадкасць для вырабу фарбаў, лекаў, 2. беларускі гімнаст, 4. абласны горад у Расеі, 5. мнагалюдная дзяржава ў Азіі. 6. агародная расліна, 7. чалавек, які зрабіў подзвіг, 12. часовая ізаляцыя хворых, 14. ударны музычны інструмент, 16. праём у сцяне для святла, 17. паслядоўны рад музычных гукаў, 18. метка, след, 19. род мастацкага твора, 21. група артыстаў, 24. музычны твор у павольным тэмпе, 25. словазлучэнне ўласцівае толькі адной мове, 26. цёплы край, куды вылятаюць на зіму птушкі, 27. чарцёж зямной паверхні, 28. сані для катання з горкі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 44 н-ра:**

**Гарызантальна:** парк, табар, адыход, агат, сорам, аказія, кісларод, закон, дэлегаты, нашчадак, смага, экзотыка, Заграб, іскра, Руан, кімано, сядло, дата.

**Вертыкальна:** калода, малако, Аргаліда, Катар, выхад, комін, мінчанка, Коменскі, зона, каша, вата, жыта, экстракт, масляк, гарыла, заліў, эрзац, зброд.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Надзеі Сцяпанавай** з Віцебска і **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх.

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 684. Віктар Хшаноўскі (Беласток)........................20,00 зл.
4 685. Галіна і Аляксей Карпюкі (Бельск-Падляшскі)........................50,00 зл.
4 686. Ніна Грыгарук (калектыў з Курашава)........................12,00 зл.
4 687. Лявон Харытанюк (Заблудаў)........................10,00 зл.
4 688. Канстанцін Масальскі (Беласток)........................6,00 зл.
4 689. Ала Дубец (Беласток)........................10,00 зл.
4 690. II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску-Падляшскім........................50,00 зл.
4 691. Ян Даніловіч (Гайнаўка)........................6,00 зл.
4 692. Анастасія Цімашук (Гайнаўка)........................6,00 зл.
4 693. Аляксей Мароз (Гайнаўка)........................12,00 зл.
4 694. Ян Жамойцін (Варшава)........................18,00 зл.
4 695. Ілья Агіевіч (Орля)........................40,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# *Парнасік*

## Як далей...

Як далей нам жыці,
Ды за што ўзяцца,
Калі кожны на вярхушку
Пачынае пхацца.
Былі мы вам патрэбны,
Як вас выбіралі.
Залатыя тады горы
Вы нам абяцалі.
Калі на вярхушку ўлез,
То пра ўсё забыўся.
Хіба розум у галаве
Яму перакруціўся.
Забыўся ты пра сялян,
Прызабыў аб рабочых,
Сабе дыету падняў,
Бо грошы харошы.
Зноўку будзем выбіраць,
Станем прыглядацца,
Каб халерным галадранцам,
Ужо больш не паддацца.

**Мікалай Лук'янюк**

## Нашы паводзіны

Новы год вітаем,
Стары праводзім,
Бога, народ праслаўляем...
А як нашы паводзіны?
Ці яны не мяшчанскія,
А мо лісліві,
А мо замнога панскія,
Ці баязлівыя?
Многа іх родаў —
Нашых паводзін.
Таксама модаў
І чалавечых адносін.
Нашы паводзіны,
Як і характар.
На сябе ключыку наводзім
Каб не былі смеху варты.

**Мікалай Панфілюк**

## Старая баба

Захацела старая баба
Маладою быці
І ўсё думала яна,
Як твар адмяніці.
Ды да гэтае пары
Галава пустая
І не можа выдумаць
Каб была маладая.
Баба ўпартая была
І не можа пагадзіцца,
Што да гэтае пары
Не магла амаладзіцца.
Купіла пудру і памадку,
Стала губы малявацъ,
І прыйшла такая думка —
Як жа хлопцаў цалавацъ?..
Пагдядзела ў люстэрка
І стала смяяцца:
Як жа мне, старой бабе,
З хлопцамі цалавацца?
Ужо памадка не паможа,
Ані розныя пудры,
Калі на бабы галаве
Пасівелі кудры.

**Мікалай Пучко**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Дарагі Астроне!

Сніцца мне, што я з мужам знаходжуся на вёсцы, на панадворку маіх бацькоў. Жыве тут цяпер адна мая мама. Бацька даўно памёр. І дзіўна, што тут ходзяць куры маёй былой сванькі (дзеці нашы развяліся ўжо), якая ў злосці з намі. Яна нас проста ненавідзіць, лічыць, што мая дачка і мы ўсяму вінаваты, хаця гэта яе сын п'яніца і лайдак, з якім жыццё было невыноснае. І мы з мужам хутка выбіраем з гнязда яйкі гэтых курэй у пластмасавы мяшочак, каб забраць іх сабе. Але ж праз яго відаць яйкі. А на панадворку трава цёмна-зялёная, густая расце. Дык мы пачалі яе рваць і абкладаць тую торбачку. Але адно яйка ніяк не закрываецца. Шкарлупінка яго вельмі белая. І тут жа паяўляецца каля нас сванька... Што было далей — не ведаю, са страху, мусіць, прачнулася. **Анна**

Шаноўная Анна! Твой сон, хаця „на вока” выглядае нескладаны, надта заблытаны. Заблытаны, калі ўзяць пад увагу тваё жыццёвыя абставіны.

Справа ў тым, што калі сніцца курыца, дык можна было б спадзявацца нейкага прыбытку, выгады, але ж па панадворку тваіх бацькоў хадзілі куры тваёй былой сванькі, ад якой ты дабра спадзявацца не можаш. Вы ўсётакі збіраеце яйкі, хаця ведаеце, што яны фактычна сваньчыны, дык не дзіва, што вам з гэтай прычыны і сорамна, і страшна. Думаю, што хаця твая дачка разведзена ўжо з мужам, дык вы нешта хочаце ад гэтай сям'і скубнуць. А ці выйдзе?

Прыгожая, густая і цёмна-зялёная трава сведчыла б аб тым, што нешта добрае чакае вас, што вашы справы пойдуць у добры бок. Зрэшты, вы ж ёю прыкрылі той пластмасавы мяшочак і амаль вам удалося прыкрыць свой сорам, калі б не засталося адно яйка, якое ніяк не хацела схавацца пад травою. І, напэўна, з прычыны вельмі белай шкарлупіны выглядала на фоне зялёнай травы вельмі яскрава. А тут жа паявілася яшчэ і сванька. Ой, яйка, якое прадвяшчала б прыбытак, прырост у сям'і, радасць і задавальненне, у гэтым выпадку, здаецца мне, прадвяшчае, што нейкія праблемы з той сям'ёю яшчэ будуць. **Астрон**


*Ніва*

**„Niwa”**

ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1997 r. upływa 5 grudnia 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 13 zł (130 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł (17 500 starych zł), a kwartalnie — 22,75 zł (227 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

# Пародыі

### Просьба каханай

*Ніхто не хоча цалаваць,*
*Калі мінае дваццаць пяць...*

***Тамаш Лукашук***

Калі міне мне дваццаць пяць,
Ці будуць хлопцы цалаваць?
Відаць, не!
Таму хачу цяпер кахаць,
Цябе ля веснічак чакаць.
Бо час міне.
Прыйдзі, мой любы, пацалуй,
І пацалункам зачаруй,
Суцеш ў журбе.
Цалуй ў засос, цалуй у шыю,
За гэта я куплю машыну
Табе!
Цалуй мне рукі, нос і вушы,
І грудзі цвёрдыя, як грушы, —
Я дазваляю.
Цалуй мяне, бо дваццаць пяць
Адна я буду сустракаць, —
Жыву ў адчаі.
Цалуй мяне і днём, і ноччу,
Я прыбягу, калі захочаш,
У дворык ваш.
Цалуй хутчэй — не дай старэць,
І ўсю мяне ты будзеш мець...
Цалуй, Тамаш!

**Сяргей Чыгрын**

# Куме трэба памагаць

Шумяць вербы на ўзгорку,
Вецер іх калыша.
— Дзе ж ты, Ванечка, пайшоў,
Каб на цябе ліха.
— Не кажы так, мая Маня,
Ды мяне не праклінай,
Памагаў куме ў рабоце
І ў яе заначаваў.
— Ваня мілы, Ваня мілы,
Сцеражыся той кумы.
Як наробіш перамотаў,
Будзе многа нам бяды.
Цябе кума даглядае,
Часам чарку паднясе.
Не агледзішся, і бусел
Штосьці ў люльку прынясе.
— Мая Маня дарагая,
Ты пра гэта не кажы.
Куме трэба памагаць
Часам сажу выціраць.

**Мікалай Лук'янюк**


# Ніўка


# Пасланне з Варшавы





POLSKA WSPÓLNOTA NARODOWA
POLSKIE STRONNICTWO NARODOWE
PWN - PSN
ZARZĄD NACZELNY
00-682 Warszawa, ul. Hoża 62, tel. 621-55-71; 625-41-70
adr. poczt: 00-956 Warszawa 10, skr. pocz. 15

Warszawa, 20 października 1996 roku

Prezydent Białorusi
Aleksander Łukaszenka

Szanowny Panie Prezydencie!

Wyrażamy nasze wielkie uznanie i poparcie dla Pana działalności, zmierzającej do umocnienia i rozwoju Białorusi w przymierzu z Rosją i innymi Państwami Słowiańskimi.

W Pana osobie widzimy niezłomnego obrońcę Białorusi przed wrogą Unią Europejską i agresywnym NATO, przed grabieżczym kapitałem zachodnioeuropejskim i amerykańskim zmierzającym do zawłaszczenia białoruskiej gospodarki poprzez tak zwaną prywatyzację.

Wokół Pana osoby jako Przywódcy Białorusi skupiły się najlepsze i najbardziej patriotyczne siły Narodu Białoruskiego. Jest Pan nadzieją Białorusi! Nie dopuszcza Pan do opanowania i ograbienia Białorusinów przez zachodni kapitalizm.

Dlatego jest Pan zajadle atakowany przez USA i Państwa Europy Zachodniej a zwłaszcza Niemcy. Przykro nam, że ataki na bratnią Białoruś i na Pana jako wielkiego patriotę białoruskiego wychodzą również z Polski, że na Polskiej Ziemi służby specjalne USA, Izraela i Niemiec przygotowują prowokacje w celu przejęcia Białorusi pod kontrolę Zachodu. Dzieje się to z woli władzy w Polsce, która nie realizuje interesów Narodu Polskiego lecz interesy swych zachodnich mocodawców.

Polska Wspólnota Narodowa zdecydowanie przeciwstawia się włączeniu Polski do Unii Europejskiej i NATO. Byłoby to utratą przez Polskę niepodległości i wykorzystaniem naszego Kraju do agresji na Białoruś, Ukrainę i Rosję. Przeciwstawiamy się prywatyzacji czyli grabieży polskiej gospodarki przez kapitał zachodni, niosącej bezrobocie, bezdomność, nędzę i głód milionów Polaków.

Jesteśmy zwolennikami państwowej, pracowniczej i prywatnej własności fabryk i ziemi tylko dla własnych obywateli, a nie dla obcych kapitalistów. Jesteśmy zwolennikami wszechstronnego przymierza Polski z Białorusią, Ukrainą, Rosją i innymi Państwami Słowiańskimi oraz niedopuszczenia do rozszerzenia NATO i Unii Europejskiej na Południe i Wschód.

W imię narodowych i słowiańskich interesów Białorusi i Polski oraz Rosji i pozostałych Państw Słowiańskich, życzymy Panu - Panie Prezydencie i całemu Narodowi Białoruskiemu zwycięstwa w walce z zewnętrznym i wewnętrznym wrogiem o dobro własnej Ojczyzny i całej Słowiańszczyzny!

Przewodniczący Polskiej Wspólnoty Narodowej
Współprzewodniczący Soboru Słowiańskiego




Bolesław Tejkowski

Bolesław Tejkowski

*На жаль, не маем у рэдакцыі копіі віншавальнага ліста Аляксандру Рыгоравічу ад Уладзіміра Вольфавіча Жырыноўскага.*

# Сентэнцыі

Папяроса можа абярнуць цябе ў дым.

* * *

Дарога — люстра, а нага ў гіпсе.

* * *

На спутаным кані гонку не выйграеш.

* * *

Высланае слова вернецца патокам слоў.

* * *

Абдумвай уважліва справы — і яны выстраяцца ў шарэнгу.

**Барыс Руско**

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

* * *

Адзін член партыі меў двух папугаяў; аднаго навучыў гаварыць „Хай жыве Сталін", а другога „Прэч са Сталінам". Аднойчы неспадзявана наведалі яго сябры. Гаспадар ад перапалоху схаваў апошняга ў халадзільнік. У ходзе прыёму адзін з гасцей залез у халадзільнік, знайшоў там птаха, занёс яго ў клетку ды аблаяў гаспадара за зверства. Папугай, калі акрыяў, закрычаў:

— Хай жыве Сталін!

— Ну так, — азваўся другі папугай, — Сібір памагае змудрэць нават папугаям.

* * *

— Чаму ўсе, калі скандзіруюць „Берут, Берут", устаюць з месцаў?

— Каб не сядзець.

* * *

— Думаю, што прэзідэнт Валэнса будзе, так як кардынал Вышынскі, чалавекам тысячагоддзя...

— Чаму?

— Бо яшчэ праз тысячу гадоў будуць пра яго расказваць анекдоты.

* * *

Сустракаюцца двое англічан:

— Ці чуў ты, што хацелі ўзарваць нашага міністра абароны?

— Якім чынам?

— Падлажылі яму секс-бомбу.



*Андрэй Гаўрылюк за шклянкай піва выдумоўвае „даўціпы".* Фота Лешка Дыжлё

# Сардэчныя тайны

Мілае Сэрцайка! Скажы, чаму ў жыцці так дзеецца, што калі чалавек чагосьці не любіць, не хоча, не патрабуе — дык нешта ў гэтым ёсць. І мо часам варта быць да такога чалавека больш талерантным, а нават і зразумець яго. Вось жа нярэз бачым, як дзіця есць вугаль або крэйду, аж трасецца, — значыць, яго арганізм патрабуе гэтага, нейкіх элементаў яму бракуе. Нюхае бензін ці пасту для абутку, бо з'ела б яно гэта, здаецца, — няхай сабе пацяшаецца.

Бо, ведаеш, у маёй сяброўкі, здарылася такое. Выйшла яна замуж і з кахання, і багата. Рэдка бывае так у жыцці, зайздросцілі ёй сяброўкі. Узяць такога прыгожага хлопца, а да таго багацюшчага... Не ведалі яны яшчэ ўсяго, бо старэйшыя бабы з нашага гарадка заўважалі: жыццё, яно яшчэ наперадзе, усё яшчэ можа выраўнацца, бо не бывае так усё „на глянц". Не памыліліся яны.

І так пакуль што жыла мая сяброўка прыпяваючы: прыватны бізнес, загранічныя паездкі — летам на мора, зімой — у горы, сустрэчы з людзьмі ў рэстаранах, на імянінах. Жыла без клопату і нічога на хацела змяняць, апрача вопраткі, якая мігацела перад нашымі вачыма, як нейкі калейдаскоп.

А муж яе хацеў, каб быў наследнік. Што за жыццё без дзяцей?! Вечна ж гуляць не будзеш! Сяброўка нават слухаць пра гэта не хацела. Вось не хацела — і ўсё. Не апраўдвалася, чаму не хоча. Людзі пачалі гаварыць нават, што, пэўна, яна не можа мець дзяцей, калі пяць гадоў замужам — і нічога. Равесніцы падсмейваліся: не хоча псаваць сваю прыгожую фігуру. Іншыя казалі: яна не мае часу!

Усе гэтыя заўвагі не рабілі ніякага ўражання на маю сяброўку. Яна не звяртала на іх увагі і нават калісьці мне сказала, што ёй проста зайздросцяць. Выглядае ж яна добра, не мае праблем з выхаваннем дзяцей і шмат падарожнічае. У людзей жыццё не ідзе так добра.

Але здарылася, што мая сяброўка зацяжарыла. Яна была ў стане шоку. Гэта ж проста немагчыма! Заўсёды так пільнавалася. Паколькі ў глыбіні душы ўсё-такі разлічвала на тое, што будзе мець калісьці дзіця (толькі яшчэ не цяпер, а пазней, калі вышуміцца), а баялася, што калі перарве цяжарнасць, то можа зусім не мець дзяцей, дык яна вырашыла тое дзіцятка нарадзіць.

Вельмі не хацела яна яго. Успрыняла факт сваёй цяжарнасці не як вялікае шчасце, а як катастрофу. А мела ж усе варункі дзеля таго, каб тое малое ў масле купалася. Вялікі дом, грошы, моцныя бацькі і свёкры, якія дапамаглі б, калі б яна не захацела нянькі.

У часе цяжарнасці сяброўка не была радасная, бышцам зусім не адчувала чароўнасці мацярынства. Хадзіла панурая, заўсёды незадаволеная. Ды і адчувала сябе не надта добра.

Дзіця нарадзілася ў акрэслены лекарам час. Усё пайшло хутка і гладка. Ніхто не прадчуваў няшчасця. Дзіцятка было жывое, але як бы не адчувала жыцця. Не плакала, не ссала, не рухалася. Было нейкае атрафічнае.

Пасля доўгага прабывання з дзіцём у ваяводскай бальніцы, сяброўка вярнулася з малым дахаты. Ужо дзіцятка даволі вялікае, яму чатыры годзікі, але ляжыць, нерухомае, у калясцы і не варушыцца. Вядома, што не ходзіць і нават не сядзіць. Трэба яго перавіваць і карміць. Нічога хлопчык не гаворыць. Адзіная яго рэакцыя гэта нібы ўсмешка на тварыку, калі маці дакранаецца да яго.

А сяброўка, яго маці? Пакахала гэта хворае малое, наняла яму кабету, якая не адыходзіць ад дзіцяці. Вазілі і ў Варшаву, і за граніцу, але ніхто не можа дапамагчы, вылечыць дзіця.

І я пытаюся ў цябе, Сэрцайка, ці не было гэта ў яе нейкае прадчуванне, што не хацела мець дзіцяці?! Мо сапраўды лепш было б яго не мець?

**Анэта**

Анэта! Вядома, што ў гэтым страшным выпадку лепш было б яго не мець. Можа, яе сэрца нешта прадчувала. Аднак жа іншыя напэўна пракаментавалі, што гэта кара за тое, што не хацела.

Не ўсімі справамі ў жыцці можна пакіраваць, як хочаш. Завяраю цябе, што і ў людзей, надта чакаючых і любячых дзяцей, такія трагедыі таксама здараюцца.

**Сэрцайка**